

# БАЙРАМ

Часопіс Беларускага грамадскага згуртавання татар "Зікр уль-Кітаб" і Мусульманскага рэлігійнага аб'яднання ў Рэспубліцы Беларусь

2002 ВЫПУСК 42

# БАЙРАМ

# ТАТАРЫ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ

**ВЫПУСК № 42**

**ЧАСОПІС
БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКАГА
ЗГУРТАВАННЯ ТАТАР "ЗІКР уль-КІТАБ"
І МУСУЛЬМАНСКАГА
РЭЛІГІЙНАГА АБ'ЯДНАННЯ
Ў РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ**

**Мінск, 2002**

**БАЙРАМ. ТАТАРЫ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ.** / Часопіс Беларускага грамадскага згуртавання татар "Зікр уль–Кітаб" і Мусульманскага рэлігійнага аб'яднання ў Рэспубліцы Беларусь, вып. № 42 – Мн., 2002, – 80 стар., наклад – 299 асобнікаў.

Часопіс "Байрам" – выходзіць з 1991 года. У ім змяшчаецца інфармацыя аб жыцці і дзейнасці мусульманскіх абшчын на Беларусі, аб асновах Іслама і правах мусульман, гісторыі і культуры беларускіх татар, важнейшых падзеях у мусульманскіх краінах. Разлічаны на татар, мусульман Беларусі, навукоўцаў, усіх, хто цікавіцца гісторыяй, культурай, мусульманскай рэлігіяй беларускіх татар. Выдаецца на правах унутранай дакументацыі Згуртавання татар "Зікр уль–Кітаб" і Мусульманскага рэлігійнага аб'яднання ў Рэспубліцы Беларусь.

Адказны за выпуск **Ібрагім Канапацкі**
Рэдактары **Ісмаіл Александровіч, Разалія Александровіч, Яўген Гучок, Дзмітры Чымбаевіч, Таццяна Якубоўская**
Набор **Дзмітры Чымбаевіч**

**На першай старонцы – фрагмент з трыпціха Алеся Цыркунова "Адвечнае сьвятло"**

بسم الله الرّحمن الرّحيم

***У імя Аллага Міласцівага, Міласэрнага!***

***Салям алейкум, спадары і спадарыні, супляменнікі-татары, усе мусульмане!***



Якубоўскі Я.А., загадчык рэдакцыі геаграфіі і геалогіі

Сёлета спаўняецца 70 гадоў з дня нараджэння Якуба Адамавіча Якубоўскага (1932–1998), выдатнага беларускага навукоўца, знакамітага энцыклапедыста, члена Праўлення Беларускага згуртавання татараў-мусульман «Аль-Кітаб», галоўнага рэдактара квартальніка «Байрам».

Нарадзіўся Якуб Адамавіч 20 красавіка 1932 г. у вёсцы Камаі Пастаўскага раёна Віцебскай вобласці ў сям'і рамесніка. У 1950 г. пасля заканчэння сярэдняй школы ў Відзах Браслаўскага раёна працаваў настаўнікам пачатковых класаў у розных школах таго ж раёна.У 1955 г. скончыў Мінскі настаўніцкі інстытут па спецыяльнасці гісторыя, пазней па гэтай жа спецыяльнасці атрымаў вышэйшую адукацыю ў Мінскім педагагічным інстытуце. У 1957–1962 гг. вучыўся на дзённым аддзяленні геаграфічнага аддзялення БДУ, які скончыў з адзнакай. У 1989 г. атрымаў вышэйшую адукацыю па спецыяльнасці беларуская мова і літаратура на завочным аддзяленні Мінскага педагагічнага інстытута. Працаваў у навукова-даследчым інстытуце глебазнаўства (1962–1967 гг.), а ў 1967–1992 гг. – у выдавецтве «Беларуская энцыклапедыя імя Пятруся Броўкі», загадчыкам рэдакцыі геалогіі і геаграфіі. З яго ўдзелам створаны наступныя энцыклапедычныя выданні: «Беларуская савецкая энцыклапедыя» у 12-ці тамах, «Энцыклапедыя прыроды Беларусі» у 5-ці тамах, аднатомнік «Прырода Беларусі», «Беларуская ССР. Кароткая энцыклапедыя» у 5-ці тамах на беларускай і рускай мовах, даведнікі пра абласныя цэнтры Беларусі, «Блакітная кніга Беларусі» і інш. У складзе калектыву стваральнікаў 12-цітомнай

«Беларускай савецкай энцыклапедыі» за заслугі ў адраджэнні нацыянальнай свядомасці і культуры беларускага народа ў 1976 г. атрымаў званне лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР.

Пасля выхаду на пенсію актыўна працаваў на ніве культурна-нацыянальнага адраджэння беларускага і татарскага народаў. Ён ініцыятар стварэння і галоўны рэдактар квартальніка Беларускага згуртавання татар-мусульман «Аль-Кітаб» – часопіса «Байрам», які выдаецца з 1991 г., аўтар гімна беларускіх татар «Мы з іманам жывем на зямлі Беларусі» (музыка Дзінары Мазітавай); узнагароджаны медалём Міколы Шчакаціхіна і занесены ў кнігу гонару «Рупліўцы твае, Беларусь» (1998); працаваў над стварэннем энцыклапедычнага даведніка «Татары Беларусі, Літвы і Польшчы» (энцыклапедыі для татар); склаў слоўнік гэтага выдання. Падрыхтаваў каля 1000 артыкулаў і апублікаваў у «Байраме» больш за 300 пробных артыкулаў для гэтай энцыклапедыі па рознай тэматыцы; вывучаў гісторыю старажытных дваранскіх родаў татар Беларусі; збіраў звесткі пра слынных дзеячоў Беларусі татарскага паходжання; гуртаваў вакол квартальніка аўтарскі калектыў краязнаўцаў, гісторыкаў, нацыянальна свядомых татараў і беларусаў.

Памёр Якуб Адамавіч 14 верасня 1998 г. «Смерць слынных асобаў заўсёды ўспрымаецца як вялікая трагедыя, – пісаў прафесар Л. Лыч. – Калі ж памірае такі чалавек дробнай па колькасці людзей этнічнай групы, яго адыход на вечны спачын шматкроць павялічвае гэтую трагедыю. Думаю, акурат так расцэньвае татарская абшчына смерць свайго дарагога, незабыўнага сына Якуба Якубоўскага. Да глыбіні душы ўзрушыла яна і многіх беларусаў, якія ведалі Якуба, падтрымлівалі з ім цесныя сяброўскія сувязі, удзельнічалі ў розных сумесных культурна-адраджэнскіх мерапрыемствах». Пахаваны Я. Якубоўскі на мусульманскіх могілках *(мізары)* у гарадскім пасёлку Смілавічы Чэрвеньскага раёна Мінскай вобласці.

З нагоды 70-й гадавіны з дня нараджэння Якуба Адамавіча Якубоўскага Беларускае грамадскае згуртаванне татар «Зікр уль-Кітаб» разам з Мусульманскім рэлігійным аб'яднаннем ў Рэспубліцы Беларусь 29 красавіка праводзяць літаратурна-музычную вечарыну. Юбілею галоўнага рэдактара, якім Я. Якубоўскі быў на працягу 1991–1998 гг. прысвечаны гэты нумар «Байрама». У яго ўвайшлі як арыгінальныя артыкулы, гэтаксама і тыя, што друкаваліся на старонках розных выданняў: артыкулы Я.А. Якубоўскага, яго гімн, а таксама некаторыя ўспаміны сяброў Якуба Адамавіча. Больш падрабязна пра Я. Якубоўскага можна прачытаць у выданнях:

Маліноўскі М. Жывая і стваральная легенда беларускага і беларуска-татарскага народаў. «Байрам», 1997, № 1; Канапацкі І. Памяці брата. «Культура», 1998, № 38; Шкуратаў І., Якубоўская Т. Якаў Адамавіч Якубоўскі. Літасфера, 1998, № 9; «Байрам», 1998, № 3, сс. 3–50.; Л.Лыч. Дзейнасць Якуба Якубоўскага ў люстэрку нацыянальна-культурнага адраджэння татараў Беларусі. «Байрам», 1999, № 1, сс. 18–32).

У чарговым томе энцыклапедыі гісторыі Беларусі будзе змешчаны артыкул пра Я. Якубоўскага напісаны І. Канапацкім і М. Маліноўскім.



# КУР'АН

## Сура чатырнаццатая – Ібрагім

***У імя Аллага Міласцівага, Міласэрнага!***



**29 (24).** Хіба ты не бачыў, як Аллаг прыводзіць прытчай добрае слова – яно як дрэва добрае: корань яго цвёрды, а галіны ў нябёсах...

**30 (25).** Яно прыносіць свае плады і кожнае імгеннне з дазволу свайго Госпада. І даводзіць Аллаг прытчы людзям, – магчыма, яны апамятаюцца!

**31 (26).** А прытча аб паганым слове – яно, як паганае дрэва, якое выдзіраецца з зямлі, – няма ў яго трываласці.

**32 (27).** Аллаг умацоўвае тых, што ўверавалі, словам цвёрдым у жыцці блізкім і ў жыцці далёкім; і зводзіць са шляху несправядлівых, і творыць Аллаг, што пажадае.

**33 (28).** Хіба не бачыў ты тых, якія памянялі міласць Аллага на бязвер'е і пасялілі народ свой у жытло пагібелі –

**34 (29).** у пекле, у якім яны будуць гарэць? І агіднае гэта знаходжанне!

**35 (30).** Зрабілі яны для Аллага роўных, каб збіць з Яго шляху. Скажы: «Цешцеся, бо шлях ваш – у агонь!»

**36 (31).** Скажы рабам Маім, якія ўверавалі, няхай яны выстайваюць на малітве і ахвяруюць з таго, што Мы далі ім, тайна і яўна, перш чым наступіць дзень, калі няма абмену і сяброўства.

**37 (32).** Аллаг – той, што стварыў нябёсы і зямлю, і звёў з нябёс ваду, і вывеў ёю плады, што выпалі на вашу долю, і падпарадкаваў вам караблі, каб яны хадзілі па моры па Яго загаду, і падпарадкаваў вам рэкі, (33). і падпарадкаваў вам сонца і луну ў працы, і падпарадкаваў вам ноч і дзень, (34). і даў вам усё, што вы просіце. І калі вы будзеце лічыць міласць Аллага, то не злічыце яе. Сапраўды, чалавек – крыўдзіцель, няўдзячны!

**38 (35).** Вось сказаў Ібрагім: «Госпадзі! Зрабі гэты горад бяспечным і аддалі мяне і маіх дзяцей, каб мы не пакланяліся ідалам.

وَءَاتَيٰكُم مِّن كُلِّ مَا سَأَلْتُمُوهُ وَإِن تَعُدُّواْ نِعْمَتَ اللَّهِ لَا تُحْصُوهَا
إِنَّ الْإِنسَانَ لَظَلُومٌ كَفَّارٌ (36) وَإِذْ قَالَ إِبْرَاهِيمُ
رَبِّ اجْعَلْ هَٰذَا الْبَلَدَ ءَامِناً وَاجْنُبْنِي وَبَنِيَّ أَن نَّعْبُدَ
الْأَصْنَامَ (37) رَبِّ إِنَّهُنَّ أَضْلَلْنَ كَثِيراً مِّنَ النَّاسِ
فَمَن تَبِعَنِي فَإِنَّهُ مِنِّي وَمَنْ عَصَانِي فَإِنَّكَ غَفُورٌ رَّحِيمٌ (38)
رَبَّنَا إِنِّيَ أَسْكَنتُ مِن ذُرِّيَّتِي بِوَادٍ غَيْرِ ذِي زَرْعٍ
عِندَ بَيْتِكَ الْمُحَرَّمِ رَبَّنَا لِيُقِيمُواْ الصَّلَوٰةَ فَاجْعَلْ أَفْئِدَةً مِّنَ
النَّاسِ تَهْوِي إِلَيْهِمْ وَارْزُقْهُم مِّنَ الثَّمَرَاتِ لَعَلَّهُمْ يَشْكُرُونَ (39)
رَبَّنَا إِنَّكَ تَعْلَمُ مَا نُخْفِي وَمَا نُعْلِنُ وَمَا يَخْفَىٰ عَلَى اللَّهِ
مِن شَيْءٍ فِي الْأَرْضِ وَلَا فِي السَّمَاءِ (40) * الْحَمْدُ لِلَّهِ
الَّذِي وَهَبَ لِي عَلَى الْكِبَرِ إِسْمَاعِيلَ وَإِسْحَاقَ إِنَّ رَبِّي
لَسَمِيعُ الدُّعَاءِ (41) رَبِّ اجْعَلْنِي مُقِيمَ الصَّلَوٰةِ وَمِن ذُرِّيَّتِي
رَبَّنَا وَتَقَبَّلْ دُعَاءِ (42) رَبَّنَا اغْفِرْ لِي وَلِوَالِدَيَّ وَلِلْمُؤْمِنِينَ
يَوْمَ يَقُومُ الْحِسَابُ (43) وَلَا تَحْسِبَنَّ اللَّهَ غَافِلاً عَمَّا يَعْمَلُ
الظَّالِمُونَ إِنَّمَا يُؤَخِّرُهُمْ لِيَوْمٍ تَشْخَصُ فِيهِ الْأَبْصَارُ (44)

**39 (36).** Госпадзі! Дык яны збілі са шляху многіх людзей, а хто пойдзе следам за мной, той – ад мяне, а хто не паслухаецца мяне... дык Ты даруючы, міласцівы!

**40 (37).** Госпадзі, я пасяліў з майго патомства ў даліне, дзе няма злакаў, у Твайго дома свяшчэннага. Госпадзі наш! Няхай яны выстайваюць малітву, і зрабі сэрцы людзей схільнымі да іх і даруй ім плады, – магчыма, яны будуць удзячныя!

**41 (38).** Госпадзі наш! Ты ведаеш, што мы хаваем і што знаходзім. Не схаваецца ад Аллага нічога на зямлі і ў нябёсах! (39). Хвала Аллагу, які даў мне на старасці Ісмаіла і Ісхака! Сапраўды, Гасподзь мой, – Ён чуе заклік!

**42 (40).** Госпадзі, зрабі мяне выстайваючым малітву і з маіх нашчадкаў. Госпадзі наш! І прымі мой заклік: (41). Госпадзі наш! Даруй мне, і маім бацькам, і вернікам у той дзень, калі наступіць разлік!»

**43 (42).** І не думай, што Аллаг нядбае аб тым, што твораць грэшнікі. Ён адтэрміноўвае ім да дня, калі вочы іх закацяцца,

**44 (43).** утаропяцца паспешліва з узнятымі ўверх галовамі, вочы да іх не вяртаюцца, а сэрцы іх – паветра. (44). Навучай жа людзей аб тым дні, калі прыдзе да іх пакаранне!

**45.** І скажуць тыя, што былі крыўдзіцелямі: «Госпадзі наш! Адтэрмінуй нам да блізкай мяжы, –

**46.** мы адкажам на Твой заклік і пойдзем следам за пасланцамі». Хіба ж вы не давалі клятву раней, што няма ў вас змены?

**47 (45).** І вы пасяліліся ў жыллі тых, якія пакрыўдзілі саміх сябе, і стала зразумелым для вас, як Мы паступілі з імі і давялі Мы вам прытчы, (46). а яны хітравалі сваёй хітрасцю, але ў Аллага ўся іх хітрасць, калі б нават ад хітрасці іх і горы рухаліся.

**48 (47).** Не лічы Аллага парушаючым Сваё абяцанне Сваім пасланнікам: бо Аллаг слаўны, уладальнік помсты

**49 (48).** у той дзень, калі зямля будзе заменена іншай зямлёй, і – нябёсы, і паўстануць перад Аллагам, адзіным, магутным!

**50 (49).** І ўбачыш ты грэшнікаў у той дзень, звязаных ланцугамі.

**51 (50).** Адзенне іх са смалы, твары іх засцілае агонь, (51). каб Аллаг аддаў душы тое, што набыла. Сапраўды, Аллаг хуткі ў разліку!

**52 (52).** Гэта – паведамленне для людзей, і няхай павучаюць ім і няхай ведаюць, што Ён – Бог, адзіны, і няхай апамятаюцца ўладальнікі розума!



# ДЗЕЙНАСЦЬ ЯКУБА ЯКУБОЎСКАГА Ў ЛЮСТЭРКУ НАЦЫЯНАЛЬНА-КУЛЬТУРНАГА АДРАДЖЭННЯ ТАТАРАЎ БЕЛАРУСІ

Вырашэннем якіх бы актуальных і важных, вялікіх праблемаў ні займаўся той ці іншы народ, у яго здзяйсненнях заўсёды вельмі яскрава вызначаецца адметная роля найбольш буйных асобаў. Гэтая роля падаецца яшчэ больш выразнай, калі размова датычыць невялікіх па колькасці народаў, нацыянальных меншасцяў. Да катэгорыі апошніх адносяцца і беларускія татары. Таму ва ўсім тым, што ім удалося дасягнуць, пачынаючы ад канца 80-х гадоў нашага стагоддзя, у нацыянальна-культурным адраджэнні постаць такога славутага змагара за гэтую святую, гістарычнай вартасці ідэю, як Якуб Якубоўскі ва ўсёй сваёй веліччы добра бачыцца і ў бяззоркавую ноч і пры густым дзённым тумане. Ці размова заходзіць пра ўтварэнне Беларускага згуртавання татараў-мусульманаў "Аль-Кітаб" і заснаванне іх друкаванага перыядычнага органа – штоквартальніка "Байрам. Татары на зямлі Беларусі", ці пра падрыхтоўку і правядзенне навукова-практычных канферэнцый па татарскай праблематыцы, закладку мусульманскай мячэці ў Мінску, арганізацыю нядзельных школ для татарскіх школ, ці пра ладаванне святочных мерапрыемстваў з нагоды 600-годдзя пасялення татараў-мусульманаў у Вялікім Княстве Літоўскім – усюды перад намі паўстае не цень, а фігура Якуба Якубоўскага. Праўда, ён-то неяк умеў вельмі спрытна хаваць сябе ў цень і заставацца незаўважаным не толькі для староннягa вока, але і для блізкіх сяброў, з якімі нястомна працаваў на карысць татарскай справы. Шмат хто ведае, што Якуб Якубоўскі з'яўляўся нязменным галоўным рэдактарам 1–27-га нумароў часопіса "Байрам", але дзе, у якім з нумароў яго гэта пазначана? Не знойдзем такога. Больш таго, што ў шэрагу нумароў гэтага перыядычнага выдання мы не знаходзім імя Якуба Якубоўскага нават сярод рэдактарскай групы. Не думаю, што такая канспірацыя выклікалася нейкімі надзвычай важнымі абставінамі. Відаць, з прычыны вялікай сціпласці, гэтак уласцівай дадзенаму чалавеку, ён проста сам не ўносіў свайго прозвішча ў склад рэдкалегіі, на што ніхто з яе сяброў не звяртаў на гэта асаблівай увагі, паколькі не сумняваўся ў прыналежнасці яму галоўнай ролі ў выхадзе кожнага нумара "Байрама". Але ці ўсе з чытачоў ведалі пра гэта, беручы ў



рукі часопіс? Несумненна, не ведалі. Гэтага не будуць ведаць і з гадамі, што не дасць магчымасці скласці правільнае ўяўленне пра ўклад Якуба Якубоўскага ў станаўленне і развіццё татарскай перыёдыкі на Беларусі. Незалежна ад таго, па чыёй віне мы не бачым імя гэтага выдатнага чалавека там, дзе яно павінна прысутнічаць, падобная з'ява не мае ніякага права для апраўдання. Народ павінен ведаць сваіх герояў, а тым больш такая невялікая па колькасці этнічная супольнасць, якой з'яўляюцца беларускія татары.

Добра ведаючы, што на працягу выдання ўсіх 27-мі нумароў штоквартальніка "Байрам" яго галоўным дойлідам быў Я.Якубоўскі, сцверджу, што з гэтай нялёгкай, вельмі адказнай функцыяй ён справіўся на выдатна з плюсам. Паводле раздзелаў часопіс вельмі арыгінальны, мала ў чым падобны на іншыя такога роду перыядычныя выданні. У ім абавязкова знойдзеш штосьці важнае, асабліва для мусульман, з іх Кур'ана, карысныя ўрыўкі з іншых кніг рэлігійнага зместу. З цікавасцю чытаецца даведачны матэрыял з задуманага да выдання "Энцыклапедычнага даведніка". І зусім апраўдана, што з першага і да апошняга нумароў "Байрама" ён прыстойна спраўляўся з функцыяй быць генератарам гістарычнай памяці беларускіх татараў. Кожны, хто знайшоў бы вольны час і ўважліва прачытаў усе гістарычныя артыкулы "Байрама", даволі дакладна ведаў бы гісторыю беларускіх татараў. Веды пра іх дапаўняюцца яшчэ і тым, што рэдакцыя часопіса ахвотна дае магчымасць выступіць на яго старонках аўтарам і па тых праблемах гісторыі Беларусі ўвогуле, без раскрыцця якіх немагчыма было б стварыць больш-менш поўны малюнак і па гісторыі яе татараў. Такой практыкі, якую гэтак актыўна ініцыяваў галоўны рэдактар часопіса "Байрам" Я.Якубоўскі варта прытрымлівацца і надалей, бо карысць ад яе відавочная. За надзвычай станоўчае і нават фенаменальнае трэба прызнаць, што за 600-гадовае жыццё татараў на Беларусі яны не зрабіліся абыякавымі да таго, што адбывалася на працягу гэтага перыяду на іх прарадзіме. Улічваючы такое, рэдакцыя часопіса "Байрам" вельмі правільна паступае, што не застаецца ў даўгу перад сваімі чытачамі, што не страцілі такога святога пачуцця. Ім дадзена столькі гістарычнага матэрыялу пра паволжскіх і крымскіх татараў, што яго хапіла б пры адпаведнай апрацоўцы на дзесяткі курсавых і дыпломных прац, што выконваюцца студэнтамі вышэйшых навучальных устаноў. Знаёмства з такім матэрыялам не толькі ўзбагачае гістарычную памяць беларускіх татараў, але і дае магчымасць лепш зразумець сваю прыналежнасць да шматмільённай татарскай супольнасці свету. Лічу, што і надалей такія матэрыялы павінны займаць належнае месца на старонках штоквартальніка "Байрам".

Цалкам апраўдана змяшчэнне з нумара ў нумар у гэтым часопісе крымскататарска-беларускага слоўніка. Знаёмячыся з яго пасобнымі словамі, адразу адчуваеш прыгажосць, самабытнасць крымскататарскай мовы. Не перабольшу, калі скажу, што выпускам крымскататарска-беларускага слоўніка будзе ўнесены каштоўны ўклад у цюркскае і беларускае мовазнаўства. Гэтага ўкладу проста нельга будзе не заўважыць Іcтытуту мовазнаўства Нацыянальнай акадэміі навук Рэспублікі Беларусь.

Ёсць у часопіса "Байрам" і шмат іншых станоўчых бакоў, за што трэба дзякаваць найперш яго галоўнаму рэдактару. Сваім укладам у жыццё гэтага цікавага перыядычнага выдання яго першая асоба заслугоўвае права на неўміручасць у памяці беларускіх татараў. Таму мяне нямала здзівіла афіцыйная інфармацыя на старонцы трэцяга нумара часопіса "Байрам" за 1998 г. Там змешчаны загад аб узнагароджанні Ганаровай граматай Дзяржкамітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Рэспублікі Беларусь асобаў, якія маюць значныя дасягненні ў справе татарскага адраджэння. Такіх асобаў *(агульнай колькасцю 4 чалавекі)* вызначыла Праўленне Беларускага аб'яднання татараў-мусульманаў "Аль-Кітаб". У дачыненні да кожнага з усіх чатырох пералічаных асобаў не можа быць аніякіх пярэчанняў. Толькі губляешся ў здагадках, а чаму ў спісе на ўзнагароду Ганаровай граматай адсутнічае Якуб Якубоўскі? Тады і колькасць узнагароджаных была б не чатыры, а пяць. Апошняя ж лічба куды больш прывабная за першую.

Не толькі сівая мінуўшча, але і сучаснасць даюць нам безліч прыкладаў цеснага сужыцця беларусаў з татарамі. Таму, каб гаварыць, аналізаваць праблемы, што стаяць перад беларускімі татарамі на рубяжы XX і XXI стагоддзяў, другога і трэцяга тысячагоддзяў, трэба хоць у самых агульных рысах сказаць пра такога роду беларускія праблемы.

На вялікі здзіў, беларусы, доўгі час *(з 1 студзеня 1919 г.)* жывучы ва ўласнай дзяржаве – Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы (БССР) – дзесьці праз 20-30 гадоў ужо ўшчыльную сутыкнуліся з праблемай захавання сябе як самабытнага этнасу. Цяпер нам добра зразумелыя прычыны такой трагедыі: БССР не была як след беларускай дзяржавай; КПСС у дачыненні да яе, як і да іншых саюзных рэспублік, праводзіла русіфікатарскую палітыку. І як вынік, беларусы, будучы за ўсе нацыі і народнасці СССР найбольш блізкімі да рускіх па культуры і мове, асімілёўваліся самымі паскоранымі тэмпамі. Прыпыніць размах асіміляцыйных працэсаў, але не цалкам зліквідаваць іх, дапамагла абвешчаная генеральным сакратаром ЦК КПСС Міхаілам Гарбачовым перабудова. Усё, што на гэты час засталося здаровым, прыродна чыстым, не засмечаным у зношаным беларускім арганізме, прыйшло ў рух. На паверхню ўсплыло і вельмі хутка набыло шырокую папулярнасць у народзе даўно забытае слова Адраджэнне.

Зусім заканамерна, што разам з нацыянальным рухам тытульнага народа Беларусі, адбылося абуджэнне ўсіх яе этнічных супольнасцяў, у тым ліку і адной з самых старажытных на нашай зямлі – татарскай. Прычым усе гэтыя супольнасці сталі ратавацца не ад нацыянальнага ўціску тытульнага народа, як гэта практычна бывае ва ўсіх поліэтнічных дзяржавах, а ад русіфікацыі. Вось у такім гуртавым змаганні і адбывалася яднанне ўсіх нацыянальных рухаў на Беларусі, асяродкам якой стаў нацыянальны рух яе карэннага насельніцтва. Па гэтай прычыне актывісты беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння не толькі не перашкаджалі, а, наадварот, усяляк садзейнічалі прыходу ў такі прагрэсіўны рух усіх этнічных супольнасцяў нашага краю. У належнай меры адчулі на сабе гэта і беларускія татары, што толькі спрыяла актывізацыі іх удзелу ў нацыянальна-культурным адраджэнні.

Як і прынята ва ўсіх падобных выпадках, беларускія татары пачалі з самаарганізацыі: стварылі ў 1991 г. Беларускае згуртаванне татараў-мусульман "Аль-Кітаб", і ў гэтым жа годзе заснавалі свой перыядычны орган – штоквартальнік "Байрам", абсалютная большасць матэрыялаў якога публікуецца на беларускай мове. Толькі вось вялікая недарэчнасць, што ўсе гэтыя лёсавызначальныя ў жыцці нашых татараў з'явы не знайшлі ніякага адлюстравання ў "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі". Відаць, не дагледзелі ні беларусы, ні татары. Гэтую памылку трэба абавязкова выправіць у адпаведным томе "ЭГБ" на літару "Т", унёсшы дэфініцыю "татары беларускія", у якой разам з іншымі пытаннямі асвятліць і іх сучаснае нацыянальна-культурнае становішча.

Хапіла ў нашых татараў сілы і магчымасцяў, каб разам з беларускімі навукоўцамі і культурнымі дзеячамі правесці ўжо ў 1993 г. вельмі шматзначную навукова-практычную канферэнцыю на тэму "Татары-мусульмане на землях Беларусі, Літвы і Польшчы". Падобнага роду канферэнцыі адбываліся і пазней. Апошняя з іх у сакавіку 1997 г. – "Праблемы вывучэння і захавання культурнай спадчыны татарскага народа на Беларусі".

Такой актывізацыяй нацыянальнага жыцця татары вельмі прыстойна сустрэлі і адзначылі ў лістападзе 1997 г. 600-годдзе свайго з'яўлення на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага, законным спадкаемцам якога ёсць сучасная наша дзяржава – Рэспубліка Беларусь. Маюцца пэўныя пазітыўныя зрухі ў арганізацыі мусульманскіх школ для навучання беларускіх татараў, для працы ў якіх запрашаюцца і студэнты-арабы, што вучацца ў ВНУ нашай краіны. Унікальнай з'явай стане выданне "Энцыклапедыі для беларускіх татараў", над падрыхтоўкай якой працуюць многія навукоўцы краіны, незалежна ад іх нацыянальнага паходжання. Тэрміны, якія ўвойдуць у энцыклапедычны даведнік, рэгулярна падаюцца ў часопісе "Байрам" і гэта вельмі правільна, бо з'яўляецца магчымасць з дапамогай чытачоў штосьці змяніць, падкарэкціраваць, унесці нейкую новую дэфініцыю. З цягам часу, як вызначыцца рэдакцыя "Энцыклапедыі для беларускіх татараў", ёй дарэчы было б прысвоіць імя Якуба Якубоўскага, бо акурат яму належыць задума ў складанні такой кнігі.

Тое, што распачалі з належным размахам татары Беларусі на рубяжы 80-90-х гадоў не магло не быць заўважаным іх супляменнікамі з іншых рэспублік, а пазней і з краін СНД. Большасць з глыбокім паразуменнем паставілася да такіх звестак і пачала падтрымліваць гэты рух і словам, і справай. Але выказваліся і паражэнчыя настроі. І тут няма нічога дзіўнага, бо працэсы дэнацыяналізацыі гэтай этнічнай супольнасці дайшлі да самай крытычнай адзнакі. Таму я вельмі высока стаўлю, што настойлівыя пошукі шляхоў нацыянальна-духоўнага адраджэння беларускімі татарамі нікольkі не аслабляліся ад таго, што хтосьці з іх аднаверцаў і блізкіх па крыві прадказваў, што гэтаму адраджэнню нібыта ніяк не ўдасца здзейсніцца, бо не той час, ні тыя ўмовы. На чыім баку праўда, пакажа час. Лічу, калі разумна выкарыстаць усе найбольш істотныя фактары адраджэння, яно зусім небесперспектыўнае. Галоўнае, што ў яго яшчэ ёсць і людскія рэзервы. Патрэбна мэтанакіраваная, глыбокаасэнсаваная растлумачальная праца ў асяроддзі

татарскага насельніцтва Беларусі незалежна ад таго, іх карані ўходзяць у вобласці Крыма, Паволжа ці ў якія-небудзь іншыя тэрыторыі – расялення гэтых шматлікіх , але блізкіх паміж сабою адгалінаванняў дадзенай этнічнай супольнасці мусульманскіх народаў. Пры правядзенні растлумачальнай працы асаблівую ўвагу трэба звярнуць на асобаў татарскай нацыянальнасці з высокай эрудыцыяй, занятых у розных сферах навукі, культуры і адукацыі, надзеленых прыродай здольнасцямі кампазітара, музыканта, спевака, мастака, пісьменніка, журналіста і г.д. Далучэнне такіх людзей да нацыянальна-адраджэнскага руху беларускіх татараў істотна ўмацуе яго. Толькі трэба рабіць усё так, каб нанова далучаныя да такога руху татары-мігранты на Беларусь накшалт яе гістарычных татараў былі моцна інтэграванымі і ў яе прыроднае нацыянальна-культурнае жыццё, а не прыносілі б ў яго, будучы моцна зрусіфікаванымі, рускія традыцыі, бо ў такім выпадку акажуцца ў пройгрышы не толькі інтарэсы карэннага насельніцтва нашай краіны, але і яе адной з самых старажытных этнічных супольнасцяў – татарскай. Яе адраджэнне і развіццё не павінна адбывацца за кошт размывання нацыянальнага патэнцыялу тытульнага народа Рэспублікі Беларусь. І яно не здарыцца, калі ў татарскім жыцці, як гэта назіралася на працягу ўсёй гісторыі і ў нашыя дні, будуць разумна спалучацца інтарэсы гэтай этнічнай меншасці з інтарэсамі народа, на тэрыторыі якога яна знайшла сабе надзейны прытулак. Калі ж дапусціць такое, што ў жыцці татараў, акрамя развіцця ўласна сваіх духоўных пачаткаў, што зусім заканамерна і натуральна, стануць сцвярджацца, умацоўвацца пазіцыі яшчэ і элементаў небеларускай культуры, дык гэта не толькі адмоўна адаб'ецца на патэнцыяле ўсяго беларускага ў краіне, але і парушыць усталяваныя паміж ім і татарскім спаконвечныя згоду і ўзаемапаразуменне.

Не без жалю вымушаны засведчыць, што факты парушэння паасобнымі прадстаўнікамі этнічных супольнасцяў нацыянальных інтарэсаў беларускага народа не так ужо і рэдка сустракаюцца ў нас. І гэта нядзіўна. Дзяржаўныя дзеячы-асімілятары ўсіх часоў набылі вельмі багаты вопыт дэнацыяналізацыі народаў з дапамогай іх супляменнікаў ці прадстаўнікоў іншых народаў, да якіх часцей за ўсё належаць самі такія дзеячы. Калі ў царскай Расіі русіфікацыя школ на Каўказе адбывалася не з такім размахам, як таго жадала самадзяржаўе, яно свядома прызначыла на пасаду міністра адукацыі краіны асобу армянскай нацыянальнасці ў надзеі, што толькі яна зможа ўкараніць рускія культурна-моўныя традыцыі ў народную адукацыю таго бунтарскага, неспакойнага расійскага рэгіёна і найперш самой Арменіі, насельніцтва якой узгадаванне маладых пакаленняў будавала толькі на сваіх уласных асновах. Новы міністр адукацыі Расіі моцна іх раструшчыў. У сферу асветы Арменіі, як і суседніх ёй Азербайджана і Грузіі, шырокім патокам хлынулі пачаткі рускай педагогікі, якім не маглі як след супрацьстаяць іх нацыянальныя сустэмы адукацыі. У Арменіі на роднай мове працягвалі навучаць дзяцей толькі ў царкоўнапрыходскіх школах *(у Беларусі ж і такога не дапускалася)*, якія ствараліся на сродкі прыходу і царквы. "Ва ўрадавых школах

панаваў русіфікатарскі рух, і ўсе прадметы праходзіліся на рускай мове".*

Марна было б спадзявацца, што нашыя дзяржаўныя мужы, адкрыта праводзячы палітыку дэнацыяналізацыі маладых пакаленняў, а таксама іншыя асобы, надзеленыя ўладай, не будуць стараца выкарыстаць дзеля гэта некаторых прадстаўнікоў этнічных меншасцяў Беларусі. Вось адзін з прыкладаў, што ўжо трапіў у перыядычны друк.

Як вядома, у Мінску доўгі час узорнай школай па беларусізацыі навучальна-выхаваўчага працэсу з'яўлялася школа № 82. З 1992/93 н.г. тут ужо ўсе першыя класы па мове навучання былі беларускімі. Адразу пасля сумнавядомага моўнага рэферэндуму 1995 г. сюды, як і ва ўсе іншыя школы краіны, у лічаныя дні прыйшло за подпісам міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь распараджэнне з указаннем забяспечыць усім бацькам права вучыць дзяцей на той мове, на якой яны пажадаюць. Пярэчыць такому міністэрскаму дакументу ніхто не збіраўся, але не спынялася і асветніцкая праца з бацькамі аб ролі роднай мовы ў фармаванні маладых пакаленняў беларускага народа. Добра дасведчаныя ў гэтым лёсавызначальным для кожнай нацыі пытанні бацькі трывала стаялі за навучанне іх дзяцей на беларускай мове. Гэтая пазіцыя, аднак, была не даспадобы для кіраўнікоў сістэмы адукацыі, і яны пайшлі на замену дырэктара школы Н. Гапонавай — вялікай прыхільніцы і змагаркі за беларусізацыю адукацыі. У лістападзе 1995 г. ёй загадана было ўступіць месца педагогу з прозвішчам, што носяць прадстаўнікі мусульманскага свету — А.Салахітдзінавай. Асобам з небеларускімі прозвішчамі *(нават і па мужу)* трэба вельмі асцярожна, а лепш і зусім не ўмешвацца ў пытанні, што датычаць самых тонкіх струнаў нацыянальнага жыцця беларусаў на іх гістарычнай тэрыторыі. Гэта цалкам іх клопат. Дапамагчы-то можна ўмацаванню нацыянальнага патэнцыялу беларускага народу ў розных сферах яго жыцця, а вось расхістваць, разбураць яго — гэта ўжо злачынства. Такімі антыбеларускімі дзеяннямі можна наклікаць не толькі справядлівы гнеў на самога сябе, але і несправядлівы гнеў на ўсю тую нацыянальную меншасць, да якой належыць асоба, што займаецца такой разбуральнай дзейнасцю.

Вельмі лёгка падпаўшы пад русіфікатарскі настрой, які запанаваў у адукацыі пасля рэферэндуму 1995 г., А. Салахітдзінава стала настойліва і заўзята рыхтаваць пасля адпаведнай працы з бацькамі і настаўнікамі наступ на беларускую мову, упэўненая, што ў гэтым абавязкова будзе мець неабходную падтрымку ва ўпраўленні адукацыі Мінгарвыканкама. Каб справа па лініі дэбеларусізацыі школы ішла з большым поспехам, туды ў жніўні 1997 г. накіравалі і такіх самых поглядаў завуча Л. Іеўлеву. І вось дзякуючы вялікім клопатам і стараннем гэтых двух далёкіх ад беларускай нацыянальнай ідэі педагогаў, ужо з 1997/98 н.г. у школе адмовіліся ствараць беларускамоўныя класы, хоць заявы ад бацькоў на арганізацыю такіх класаў і паступалі. Акрыленае такімі "поспехамі" кіраўніцтва школы пачало вынішчэнне беларускамоўных 2-іх, 3-іх, 4-ых і ўсіх

* Педагогическая энциклопедия. М., 1930, с. 641.

наступных класаў. У 1998/99 н.г. у колішняй беларускамоўнай школе засталося толькі тры класы, у якіх дзяцей навучалі на нацыянальнай мове карэннага насельніцтва краіны.
У працілегласць сказанаму вышэй прыгадваецца такі выпадак з майго ўласнага жыцця. На працягу 1954/55 – 1956/57 навучальных гадоў я выкладаў гісторыю СССР, фізкультуру і ваенную справу ў Юматаўскім сельскагаспадарчым тэхнікуме Башкірыі, пра педагагічны калектыў якога я захаваў самыя цёплыя ўспаміны і нават дазволіў сабе на пачатку 90-х гадоў наведаць гэтую незабыўную мною ўстанову. Час маёй працы ў ёй супаў з хрушчоўскай адлігай, якая дала магутны штуршок нацыянальным рухам у СССР, у тым ліку і ў Башкірыі. Выразна адчувалася гэта і сярод выкладчыкаў тэхнікума башкірскай і татарскай нацыянальнасцяў. Кінулася ў вочы, што раптам усе яны загаварылі паміж сабою на нацыянальных мовах на перапынках, проста ў вольны ад асноўнай працы час. Пераважна гэтыя мовы гучалі, калі выкладчык аказваўся ў асяроддзі башкірска-татарскай моладзі, на долю якой прыпадаў даволі высокі працэнт навучэнцаў. На пасяджэннях жа педагагічных саветаў пры звароце да ўсіх прысутных выкладчыкі карысталіся толькі рускай мовай. Шмат каму з рускамоўных выкладчыкаў тэхнікума крайне не падабалася такая рэзкая моўная метамарфоза ў башкірска-татарскім асяроддзі. І як гэта часта практыкавалася ў савецкі час, нейкімі асобамі быў падрыхтаваны для паслання на адрас Башкірскага абкама камуністычнай партыі ліст, у якім звярталіся з просьбай паўплываць на стан моўнай сітуацыі ў педагагічным калектыве, каб у прысутнасці рускамоўных калегаў башкіры і татары і ў неафіцыйнай абстаноўцы не зносіліся паміж сабой на сваіх родных мовах. Прапанавалі і мне, адносна яшчэ маладому паводле ўзросту *(пераваліла ўсяго толькі за 25 гадоў)* і выкладчыцкай працы *(стажу трохі больш за тры гады)* педагогу падпісаць той ліст, на што быў дадзены прыкладна такі адказ: *"Для Башкірыі я прышлы чалавек (пражыў прыкладна тры гады) і не ўпэўнены, што застануся тут надоўга ці навекі. Мову ж зносін ва ўсіх сферах грамадскага жыцця, павінны выбіраць карэнныя жыхары той ці іншай саюзнай альбо аўтаномнай рэспублікі".* Пачуць такое ад чалавека тыповай славянскай знешнасці было вельмі дзіўным, але ўгаворваць не сталі. Дзесьці праз паўмесяца з абкама партыі прыехала ў тэхнікум высокая асоба мясцовай *(башкірскай ці татарскай)* нацыянальнасці. Тут партыйны орган Башкірыі зыходзіў з правільнай пазіцыі, што моўнае башкіра-татарскае пытанне трэба вырашаць з дапамогай толькі прадстаўнікоў карэннага насельніцтва гэтай аўтаномнай рэспублікі. Спачатку камандзіраваная асоба сустракалася з выкладчыкамі башкірскай і татарскай нацыянальнасцяў, а затым і з усім педагагічным калектывам. Ад яе пачулі прапанову, што ў прысутнасці рускамоўных башкіры і татары ў памяшканні тэхнікума павінны размаўляць паміж сабою толькі па-руску. Пярэчанняў не было, бо разумелі, што хрушчоўская адліга не мела мэтай асабліва моцна абуджаць нацыянальныя пачуцці нярускіх народаў. Адчувалася, што ніхто з башкіраў і татараў не вынес аніякай радасці ад такога вырашэння моўнага пытання. Канфлікт быў загнаны ва ўнутро. Знешне адносіны

паміж людзьмі розных нацыянальнасцяў выглядалі нібыта вельмі прыстойна, а што было ў глыбінах душы башкіраў і татараў – цяжка сказаць. Сам жа я ў адносінах да сябе адчуваў з іхняга боку нейкую павагу. Відаць, з цягам часу даведаліся, якую пазіцыю па моўным пытанні займаў той ці іншы з рускамоўных выкладчыкаў. Ніколі не думаў, што калі ў 1991 г. наведаў Юматаўскі тэхнікум і сустрэўся з тымі, з кім працаваў у 1955–1957 гг., яны мне нагадаюць пра тую сітуацыю і, пахлопаўшы па плячы, скажуць: "Спасибо, Леонид Михайлович, за понимание и сочувствие нашим национальным, языковым проблемам". Думаю, што ніколі не ўдасца пачуць такіх слоў на свой адрас А. Салахітдзінавай і Л. Іеўлевай за разбурэнне нацыянальных асноў мінскай школы № 82. Цяпер гэтыя педагогі, бясспрэчна, ў пашане ў прадстаўнікоў дзяржаўнай улады, бо дапамагаюць ім праводзіць палітыку русіфікацыі ў агульнаадукацыйнай школе. Але так не можа доўжыцца бясконца. Недалёкі той час, калі беларускі народ зразумее, што нацыянальная школа – гэта галоўны, незаменны сродак выратавання ад этнічнага вымірання і ўсім гуртам рушыць у паход за стварэнне такіх навучальных установ. Усе, хто некалі чыніў і сёння чыніць перашкоды стварэнню, дзейнасці беларускіх нацыянальных навучальных установ, не заслужаць пахвалы ў нашага народа. Не веру, што ў яго не хопіць розуму і сілы для стварэння такой сістэмы народнай адукацыі, якая будзе працаваць на сваёй прыроднай аснове. Каб наблізіць гэты зоркавы час, нам трэба ўсяляк умацоўваць кадравы склад педагагічнай інтэлігенцыі асобамі, для якіх беларуская нацыянальная ідэя – гэта святая справа. Упэўнены, што такой яна стане і для многіх прадстаўнікоў этнічных супольнасцяў Беларусі і найперш за ўсё татарскай, якая на працягу ўсёй гісторыі знаходзіла і будзе знаходзіць узаемапаразуменне з карэнным народам. Радуюся, што не раз даводзілася сустракацца ў прэсе з фактамі выкладання беларускай мовы і літаратуры ў агульнаадукацыйнай школе настаўнікамі з татарскімі прозвішчамі і імёнамі, прычым і паволжскага ці крымскага паходжання.

Вельмі актуальным і першачарговым лічу да грамадска-культурнай дзейнасці гэтай так блізкай беларусам этнічнай супольнасці далучыць выдатныя, рэдкія ў свеце здольнасці лідскай татарскай школьніцы Дзінары Мазітавай. Нібы самім Алахам прадвызначана, што яе талент нарадзіўся і расцвіў акурат у тым куточку беларускай зямлі, дзе 600 гадоў таму знайшоў сабе надзейны прытулак, дзякуючы ласцы вялікага князя Вялікага Княства Літоўскага Вітаўта, выгнаны сваімі родзічамі хан Залатой Арды Тахтамыш. Мо гэта найлепшы варыянт талентам Дзінары адплаціць беларусам за тое, што яны далі права на жыццё яе далёкаму продку? Толькі трэба, каб гэты талент выкарыстоўваўся ў рэчышчы тых этнакультурных традыцый беларускіх татараў, якіх яны спрадвеку прытрымліваліся на нашай зямлі. Будзе вельмі недарэчна, калі Дзінара сваімі выдатнымі дараваннямі абыйдзе культуру мясцовых татараў ці культуру народа, на зямлі якога яны знайшлі сабе сваю другую радзіму, і стане ўзбагачаць культурную спадчыну прадстаўнікоў тых нацый, для якіх Беларусь не з'яўляецца гістарычнай тэрыторыяй.

Актывісты сучаснага татарскага нацыянальна-культурнага адраджэння мелі рацыю, што свае першыя крокі адразу ж скіравалі на

хутчэйшае аднаўленне мусульманскіх храмаў, бо менавіта нішто іншае, як толькі Іслам, дапамог выжыць, захавацца на беларускай зямлі гэтай этнічнай супольнасці. Дзякуючы рэлігіі, яна нязменна культывавала ў родным асяроддзі многія ўласцівыя свайму народу адметнасці з духоўнага жыцця і побыту. Багата з гэтых адметнасцяў дайшло і да нашага часу. Але сёння яны не адгарожаныя ад небяспечнага знікнення пад уплывам характэрнай для ўсіх народаў свету стандартызацыі іх жыцця, найперш духоўнага. Таму гэтыя адметнасці трэба ўсяляк засцерагаць, прапагандаваць. У якасці такога сродку многімі народамі паспяхова выкарыстоўваюцца краязнаўчыя, этнаграфічныя музеі. Такога татарскага музея на Беларусі няма, але ён павінен быць закладзены, і найперш у Мінску. Месца для яго трэба выбраць у раёне тых вуліц і кварталаў беларускай сталіцы, дзе некалі кампактна жылі татары. Тэрміновае вырашэнне пытання з будаўніцтвам музея культуры і быту беларускіх татараў, у чым існуе вельмі пільная патрэба, ні ў якім разе не павінна адмоўна адбіцца на яго архітэктурных якасцях. Будынак павінен адпавядаць самым высокім патрабаванням сучаснай архітэктуры мусульманскіх народаў і па-свойму ўпрыгожыць, надаць характэрную адметнасць знешняму абліччу беларускай сталіцы. Беларускія татары заслугоўваюць фінансавай, матэрыяльнай дапамогі на такі будынак і з боку самой беларускай дзяржавы, што аддана служылі і працягваюць служыць ёй, і з боку мусульманскіх краін, што жывучы на працягу 600 гадоў на такой вялікай аддаленасці ад іх, захавалі, нягледзячы на цяжкія выпрабаванні, сваё этнічнае аблічча, стварылі ў далёкім краі цудоўны, адметны аазіс мусульманскай культуры. Узяць чынны ўдзел мусульманскімі краінамі ва ўзвядзенні ў сталіцы Беларусі велічнага храма татарскай культуры і быту ў пэўнай ступені абавязвае і той вялікі ўклад, які ўнеслі і ўносяць навучальныя ўстановы гэтай дзяржавы ў падрыхтоўку спецыялістаў з ліку накіраванай сюды арабскай моладзі.

Не марудзіць, спяшацца са стварэннем унікальнага Музея культуры і быту беларускіх татараў нас падштурхоўвае натуральнае знікненне пад уплывам часу тых матэрыяльных прадметаў і рэчаў, якія маглі б служыць у якасці яго экспанатаў. Патрэбна таксама лічыцца з няўмольным натуральным працэсам скарачэння ліку носьбітаў прыроднай культуры гэтай этнічнай супольнасці Беларусі, якія захоўваюць рэдкія рэчы ці маглі б штосьці адметнае стварыць уласнымі рукамі для музея. Не сакрэт, што беларускія татары вызначаліся і вызначаюцца вельмі высокім умельствам у розных жанрах матэрыяльнай культуры, прыкладнога мастацтва, характэрных менавіта для іх народа. Усёй краіне вядома, якім выдатным, непаўторным майстэрствам у мадэліраванні розных фасонаў адзення валодае ўраджэнка Узды, татарка Айша Александровіч. Не забытыя ёю і ўзоры татарскага нацыянальнага адзення, якімі можна было ўпрыгожыць адпаведныя залы музея. Для яго абсталявання не пашкадавалі б часу, энергіі і іншыя татары, якіх Аллаг шчодра надарыў здольнасцямі выдатнага майстра ў тым ці іншым жанры культуры і мастацтва. Немалаважна, што з заснаваннем у Мінску Музея татарскай культуры і быту істотна палепшыліся б магчымасці для правядзення litрознага роду культурна-асветніцкіх, арганізацыйна-масавых мерапрыемстваў і проста для ладавання сяброўскіх

сустрэч прадстаўнікоў гэтай этнічнай супольнасці. Сёння ж дазволіць сабе такога ў іх практычна няма аніякіх умоваў. З надыходам лепшых часоў, у што нельга не верыць, ля музея можа з'явіцца, праз узвядзенне новага будынка, і сапраўдны татарскі культурна-асветніцкі цэнтр.

Вышэй, калі размова ішла пра штоквартальнік "Байрам", гаварылася, што з дапамогаю яго многа зроблена дзеля асвятлення гістарычнага шляху беларускіх татараў. Велізарны ўклад у гэту пачэсную справу зрабілі гісторыкі Станіслаў Думін (*масквіч*) і Ібрагім Канапацкі, выдаўшы ў 1993 г. вельмі цікавую і змястоўную кнігу "Беларускія татары: мінулае і сучаснасць". Па дадзенай праблеме змешчаны шэраг навукова-гістарычных публікацый у матэрыялах розных навукова-практычных канферэнцый, на старонках часопісаў, што выдаюцца на Беларусі. Прычым аўтарамі такіх публікацый выступаюць не толькі татары, але і беларусы, а таксама прадстаўнікі іншых нацыянальнасцяў. І ўсё ж рэзервы па далучэнні беларускіх татараў да свайго мінулага яшчэ ёсць.

Сусветны вопыт пераконвае, што для абуджэння і ўзбагачэння гістарычнай памяці таго ці іншага народа нікольні не меншую ролю за навуковую, спецыяльную літаратуру, падручнікі адыгрывае літаратура мастацкая. Магчымасці ўздзеяння яе на чалавека проста невычарпальныя. Таму не выпадкова так многа і плённа працавалі ў гістарычным жанры раманісты і драматургі практычна ўсіх еўрапейскіх народаў і асабліва ў час, калі яны фармаваліся ў нацыі, вялі змаганне за стварэнне нацыянальных дзяржаў. Самімі нашымі татарамі ці якімі-небудзь іншымі аўтарамі вельмі мала выкарыстана патэнцыяльных магчымасцяў мастацкай літаратуры дзеля паглыблення ведаў і павелічэння зацікаўленасці да татарскай мінуўшчыны, якая ні ў якім разе не можа ўяўляцца нечым занадта ўжо просценькім, без усялякіх адметных, істотных адценняў. У адной толькі ваеннай гісторыі колькі гераічных і захапляльных старонак! Шмат цікавага і самабытнага было і ёсць у культуры беларускіх татараў. Карацей кажучы, ёсць пра што пісаць прыхільнікам гістарычнага жанру ў мастацкай літаратуры. Толькі вось бяда, такіх прыхільнікаў пакуль што я не бачу сярод саміх беларускіх татараў. Але ж падрыхтаваць такога жанру кнігу могуць не толькі аўтары, якія належаць да дадзенай нацменшасці. І гэта зусім рэальна. У гісторыі мастацкай літаратуры даволі шмат выпадкаў, калі майстры пяра пісалі цікавыя, захапляльныя творы пра іншыя народы і краі, да якіх яны не належалі, дзе ні разу не ступала іх нага. З беларускіх аўтараў тут у першую чаргу можна назваць Янку Маўра.

Усё, што гаварылася вышэй адносна неабходнасці стварэння мастацкай літаратуры, сюжэтамі для якой з'яўляліся б адметныя падзеі і факты з гісторыі беларускіх татараў, у аднолькавай ступені можна аднесці да падобнага накірунку ў выяўленчым мастацтве, дойлідстве, кіно. Не ведаю дакладна прычын, але да сённяшняга дня мне не ўдалося нічога такога пабачыць пра гісторыю беларускіх татараў, што выйшла б з-пад пэндзаля мастака, разца скульптара ці з'явілася на кінаэкранах у час дэманстрацыі мастацкіх фільмаў. Абвінавачваць за ўсё гэта мясцовых татараў або спадзявацца, што пасля маёй крытыкі яны адразу хопяцца

ліквідоўваць гэтыя прагалы, зусім безпадстаўна, бо іх саміх вельмі мала, каб ускінуць на свае навярэджаныя плечы такі цяжар. Ім на дапамогу павінны прыйсці здольныя ў той ці іншай галіне культуры і мастацтва беларусы, прадстаўнікі больш шматлікіх этнічных супольнасцяў рэспублікі. Пажадана было б да вырашэння гэтай архінадзённай для беларускіх татараў праблемы прыцягнуць іх супляменнікаў з Крыма, Паволжа і іншых краін з мусульманскім насельніцтвам, якое, як мы ведаем, вызначаецца і вялікім талентам, і шчырай павагай да людзей сваёй веры.

Не гэтак даўно мною было напісана некалькі артыкулаў пра таленавітага беларускага пісьменніка і навукоўца татарскага паходжання Сцяпана Александровіча, у якіх адзначаўся яго вялікі ўклад у беларускую справу. Але я і тады, а яшчэ больш сёння, задумваюся, чаму ён свае беларускамоўныя мастацкія творы зусім не паварочваў да тэматыкі беларускіх татараў, якая і да яго і пры ім так слаба распрацоўвалася? Магчыма, лічыў, што ўжо больш ніколі не ўзыйдзе сонца для яго суродзічаў, ужо што апошнія гады дажываюць яны на гасціннай беларускай зямлі. Каб толькі палову з таго, што у галіне мастацкай літаратуры ён даў беларускаму народу, было зроблена і для татарскай супольнасці, яна сёння мела б хоць адзін цікавы раман, драматычны твор, мастацкі кінафільм, прысвечаныя яе жыццю. Беручы усё гэта пад увагу, беларускай мастацкай інтэлігенцыі было б не грэх пастарацца неяк сплаціць свой даўжок татарам, паколькі яе таленавіты сын так плённа шчыраваў на ніве беларускай культуры, што нават забыўся на іх уласныя духоўныя запатрабаванні. Апошніх мы, беларусы, таксама не маем права пакідаць незадаволенымі. Аднак, садзейнічаючы ва ўсім нацыянальна-культурнаму адраджэнню татараў на базе іх прыродных духоўных асноў, нам, як тытульнаму народу краіны, зусім не абыякава да таго, з якой жа павагай яны, дасягнуўшы пэўных пазітыўных зрухаў, будуць ставіцца да нашых культурна-моўных каштоўнасцяў. А можа яшчэ вырашыць замяніць іх на іншыя, больш верагодна на рускія, якія так умацоўваюцца апошнім часам на нашай зямлі? Адрадзіўшы і стаўшы жыць паводле сваіх духоўных стандартаў і адначасова замяніўшы такія беларускія стандарты на рускія, татары гэтым самым парвалі б повязь са сваім далёкім і не надта далёкім мінулым, адышлі б ад гэткай характэрнай для іх культурнай інтэграванасці з Беларускім краем і — што страшней за ўсё — нават спрыялі б яго дэнацыяналізацыі, умацаванню рускіх пачаткаў, як гэта ўжо не першы дзесятак гадоў ён адчувае на сабе з боку і такой сваёй спрадвечнай этнічнай супольнасці, як яўрэйская, у якой зараз для яе чужога-рускага ў дзесяткі разоў больш, чым чужога-беларускага. Беларускаму народу ніколькі не пагражае любое ўзмацненне нацыянальнага ў жыцці яго неславянскіх этнічных супольнасцяў, але калі ў ім (жыцці) пачынаюць умацоўвацца, буяць рускія элементы, якіх і так празмерна шмат у культурна-моўным патэнцыяле нашага краю, тады нельга нічога іншага чакаць, як далейшай русіфікацыі апошняга, якая занадта ўжо далёка зайшла і ўяўляе рэальную пагрозу для далейшага этнічнага існавання яго карэннага насельніцтва. Вось таму нам і раней і цяпер не страшна ўсялякае ўзмацненне нацыянальных пачаткаў у татарскай, яўрэйскай, літоўскай, латышскай

і іншых невялікіх па колькасці насельніцтва этнічных супольнасцяў. Пад уплывам такога ўзмацнення ніколі ў беларускім народзе не будуць назірацца працэсы татарызацыі, яўрэізацыі ... сярод пэўнай часткі людзей, як гэта мела і мае вынікам сваім русіфікацыя. Выкліканая ёю і іншымі фактарамі дэнацыяналізацыя беларускага народа робіць пэўную частку яго, прычым і не такую ўжо малакалькасную, крайне безабароннай перад уплывам сучаснай паланізацыі. Зусім верагодна, што пры далейшай дэнацыяналізацыі беларусаў на базе ўсё той жа самай русіфікацыі значная доля іх, што пражывае ў паўднёва-заходняй частцы краіны, стане аб'ектам украінізацыі, бо непахісны курс гэтай дзяржавы на забеспячэнне поўнай незалежнасці вельмі спрыяе росту яе *(дзяржавы)* аўтарытэту сярод беларускага насельніцтва, што жыве на сумежжы з Украінай. Не трэба забывацца, што ў яго культуры і мове шмат чаго вельмі блізкага з этнічнымі украінцамі і таму, калі іх дзяржава будзе прагрэсіраваць у сваім эканамічным, сацыяльна-палітычным і духоўным развіцці, трывала стаяць на пазіцыях нацыянальнага суверэнітэту, а Беларусь, наадварот, проста на вачах будзе траціць яго, адмаўляцца ад сваіх прыродных культурна-моўных каштоўнасцяў, сумежныя з Украінай беларусы самі, без усялякай прынукі, добраахвотна стануць на шлях украінізацыі. Любы здэнацыяналізаваны народ, якімі ўжо не першае дзесяцігоддзе з'яўляюцца, дзякуючы "мудрай" нацыянальнай палітыкі КПСС і ўласнай дзяржавы, беларусы, не здольны выконваць іншых функцый, як толькі быць пажыўным рэчывам для колькаснага павелічэння суседніх яму этнасаў. Для нас, беларусаў, – гэта рускія, палякі і украінцы.

Не з'яўляецца сакрэтам, што сучаснае татарскае нацыянальна-культурнае адраджэнне на Беларусі сутыкаецца з вельмі сур'ёзнымі дэмаграфічнымі праблемамі. Прычым да такой ступені сур'ёзнымі, што яны могуць паставіць пад пытанне само адраджэнне, бо яму ж патрэбна пэўная крытычная маса асобаў татарскай нацыянальнасці. Накшталт карэннага насельніцтва Беларусі і яе татары здрадзілі гуманнай традыцыі: мець у сям'і столькі дзяцей, колькі атрымліваецца. Дзеячамі татарскага адраджэння падлічана, што на працягу года на Беларусі памірае больш за 200 мусульман. Шкада, што нідзе не прыводзяцца звесткі аб колькасці народжаных за год мусульман, каб мець уяўленне аб іх натуральным прыросце. А можа яго няма, як ужо не першы год ён адсутнічае ў тытульнай нацыі нашай краіны – беларускай. Калі гэта і сапраўды так у татараў, дык тут не трэба доўга думаць, а лепш прыслухацца да разумнай вершаванай парады беларускага паэта Рыгора Барадуліна:

Татары!
Множцеся й пладзіцеся.
Вы нашыя.
Салям алейкум!*

Ва ўмовах адсутнасці колькаснага росту татараў беларускага кшталту вельмі важна як мага больш з тых, хто ёсць, далучаць да актыўнага нацыянальнага жыцця. Такое пакуль што назіраецца

* Байрам. 1998. № 3. С. 7.

толькі ў самім Мінску і ў Іўі *(Гродзенская вобласць)*, у якой ледзь не да апошняга часу функцыянавала адзіная на ўсю Беларусь мусульманская мячэць. Рух за татарскае адраджэнне набудзе належную моц толькі тады, калі да яго актыўна падключыцца і перыферыя.

У полі зроку кожнага народа, які не жадае аказацца ахвярай культурна-моўнай асіміляцыі, стала павінны знаходзіцца яго маладыя пакаленні, бо яны найбольш за ўсе ўзроставыя катэгорыі насельніцтва падпадаюць пад рознага роду стандартызацыі духоўнага жыцця і побыту. Пераканацца ў праўдзівасці гэтых слоў можна на горкім шматгадовым вопыце беларусаў, дзеці якіх, пачынаючы з дзіцячых садоў і канчаючы вышэйшымі навучальнымі ўстановамі, узгадоўваюцца не ў адпаведнасці са сваімі прыроднымі культурна-моўнымі традыцыямі, таму не маюць належнай павагі ні да матчынай мовы, ні да духоўнай спадчыны старэйшых пакаленняў. Не выключана, што страх паўтарыць гэты крайне негатыўны вопыт беларусаў разам з іншымі фактамі паслужыў штуршком для нашых татараў, каб у лістападзе 1997 г., г.зн. у год, калі святкавалася 600-годдзе прыбыцця іх продкаў на беларускую зямлю, стварыць Беларускае рэгіянальнае аб'яднанне татарскай моладзі, мэтай якога "з'яўляецца адраджэнне старажытных традыцый і культуры татар Беларусі, стварэнне ўмоў для ўсебаковага развіцця татарскай моладзі Беларусі".* Не зразумела толькі, чаму ні ў мэты, ні ў задачы гэтага таварыства не трапіў моўны аспект, тым больш што для беларускіх татараў ён меў, мае і будзе мець шмат складанасцяў. А іх жа трэба пераадольваць, бо без роднай мовы кульгае, прычым на дзве нагі, не толькі любы шматлікі народ, але і невялікая па сваёй колькасці этнічная супольнасць.

Мы напярэдадні новага, XXI стагоддзя. Яно будзе намнога больш складаным у параўнанні з папярэднімі ста гадамі ў сэнсе магчымага захавання на планеце Зямля не толькі нетытульных, але і многіх тытульных народаў, асабліва калі іх дзяржавы не праводзяць адпаведнай нацыянальнай палітыкі ў дачыненні да этнасу, імем якога яны называюцца. Да такіх суровых выпрабаванняў трэба ўжо зараз самым сур'ёзным чынам рыхтавацца, прычым не толькі беларускім татарам, але і самой тытульнай нацыі Рэспублікі Беларусь – беларусам, бо няма аніякай радасці аказацца праглынутым жыўцом народамі-веліканамі. Татарская супольнасць у тым адметным, непаўторным абліччы, у якім яна існавала на беларускай зямлі на працягу стагоддзяў і існуе сёння, зможа захавацца і развівацца толькі пры ўмовах, калі беларускага народу дарэшты не даканае руская культурна-моўная асіміляцыя. Выміранне беларусаў як самабытнай нацыі карэнным чынам зменіць этнакультурныя асновы жыцця татараў. У ім мала чаго застанецца з таго, што яны пранеслі праз стагоддзі жыцця на сваёй другой радзіме – Беларусі.

**Леанід Лыч**



---

* Байрам. 1997. № 4. С. 60.

# ДА 70-ГОДДЗЯ ЯКУБА АДАМАВІЧА ЯКУБОЎСКАГА

*20 красавіка 1932 – 14 верасня 1998*

Памяць пра чалавека – ў яго справах і ў яго словах, калі словы запісаныя, то напісанае – застаецца. Але ў словах чалавек імкнецца вызначыць свае мэты, надзеі, жаданні, памкненні, а справы – гэта здзяйсненні, тое, што яму задалося выканаць, у чым ён рэалізаваўся. Калі справы адпавядаюць высокім мэтам і служаць развіццю грамадства, абуджэнню духоўнасці, і калі ў падмурку такіх спраў – ахвярнасць, то іх творца – **Асоба.**

У яго быў талент арганізоўваць сваё жыццё дзеля мэты. Была здольнасць падпарадкоўваць гэтай мэце ўсю дасягальную прастору і насяляючых яе родных, блізкіх і знаёмых людзей. Быў талент знаходзіць і прыцягваць цікавых людзей, і заахвочваць іх да ўдзелу ў сваёй справе.


Маці Якуба Адамавіча. Г.п. Відзы, 1968

Якуб Адамавіч Якубоўскі нарадзіўся 20 красавіка *(у пашпарце 4 красавіка)* 1932 г. ў вёсцы Камаі, што на Пастаўшчыне. Ён быў чацвёртым дзіцем у татарскай сям'і Раісы Хасеньеўны і Адама Мустафавіча, але гадаваўся другім, бо двое дзетак да яго памерлі ў раннім дзяцінстве. Потым яшчэ нарадзілася трое хлопчыкаў, і зноў малодшы за Якуба Сцёпачка памёр на трэцім гадку ад хваробы, не паспелі давезці да доктара. Усяго ў Якубоўскіх выгадавалася 4 сыны. Больш ці менш спрыяльнымі, у дастатку, былі даваенныя гады, калі бацька радаваў дзетак, амаль кожны дзень прыносячы з базару апельсіны ці іншыя ласункі. Якуб за Польшчай скончыў два класы, таму праз ўсё жыццё чытаў і размаўляў папольску. Цікава, што ў школе выкладалі Закон Божы, і татарскіх дзяцей, як і яўрэйскіх, ксёндз адпускаў з урокаў, бо яны былі не абавязковымі для некатолікаў. Але Якуб часта заставаўся ў класе, на што ксёндз таксама не пярэчыў. З таго часу на ўсё жыццё запомніў "Отчэ наш" і іншыя пацеры.

Ваеннае ліха не абмінула сям'ю Якубоўскіх. У 1943 годзе зімой ў час бою партызан з нямецкім гарнізонам у Камаях згарэла хата, кароўка ў хлеве і ўсё нажытае. Сям'ю прытулілі і падтрымалі, як маглі, далёкія сваякі-татары. Праз некаторы час пераехалі ў Відзы, што паблізу ад мяжы з Літвой, у старую хату радні маці. Пры вызваленні Заходняй Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў за Відзы ішлі ўпартыя баі, фронт не раз каціўся праз мястэчка. Хлапчукі ж не былі асцярожнымі і траплялі ў небяспечныя сітуацыі: аднойчы куля зачапіла скуру на віску Якуба, праляцеўшы міма...

У 1944 г. прызвалі ў Чырвоную армію брата Канстанціна. Якуб застаўся ў хаце за старэйшага сына. Пайшоў у школу, "пераскочыўшы" праз некалькі класаў. Апаленыя вайной падлеткі да вучобы ставіліся

вельмі адказна, вучоба для іх была найваж-нейшай справай. Якуб вызначаўся здольнасцямі, упартасцю і добрай памяццю. Незадоўга да заканчэння дзесяцігодкі хлопца спаткала бяда – ён згубіў зрок на левым воку, зрэнку назаўсёды закрыла бяльмо. Гэта няшчасце вельмі моцна паўплывала на фарміраванне характару і на далейшае жыццё юнака. Тады ён акрэсліў для сябе першую звышзадачу: не толькі не адставаць ад здаровых сяброў у набыцці ведаў і ў культурным развіцці, але і пераўзыйсці іх.

Пасля школы сямейныя абставіны вымусілі пайсці на свой хлеб. Трэба было дапамагаць сям'і, дзе яшчэ вучыліся два школьнікі і будавалася новая хата, бо старая зусім развалілася. Працаваў з 1949 г. у розных школах тады Відзаўскага раёна, спачатку піянерважатым, потым настаўнікам малодшых класаў. Але хутка пачаў завочна вучыцца на гістарычным факультэце Мінскага настаўніцкага інстытута, які існаваў тады пры Мінскім дзяржаўным педагагічным інстытуце імя М. Горкага. Закончыў яго выдатна ў 1955 г. ужо як настаўнік гісторыі.

За гады настаўніцтва вельмі шмат чытаў мастацкай літаратуры, сістэматычна асвойваючы поўныя зборы твораў Драйзера, Сервантэса, Талстога, Дастаеўскага і інш. Набыў вельмі высокую хуткасць чытання. Тады ж пачаў захапляцца эсперанта як мовай зносін паміж усімі жыхарамі планеты. Трэніраваў з поспехам сваю і ад прыроды надзвычай ёмістую памяць, завучваючы кожны дзень вершы. Перавагу надаваў газэлям і рубаям Амара Хайяма, Рудакі, Саадзі, Дэхлеві, любіў кітайскую паэзію. Дасканала ведаў і любіў гісторыю старажытнага свету, у антычннасці знаходзіў прыклады для пабудовы ідэальнай дзяржавы будучага. У той час ужо сабраў сваю бібліятэку пераважна з кніг па спецыяльнасці. Думаю, што ўсе свае захапленні ён не хаваў ад вучняў, а, наадварот, прыахвочваў да іх, асабліва старэйшых школьнікаў.

У тыя ж гады сталі відавочнымі сур'ёзныя парушэнні ў рабоце сэрца і абмене рэчываў. Якуб Адамавіч успрыняў гэта таксама вельмі балюча і яшчэ больш заця́ўся ў сваім жаданні не ўступаць здаровым людзям па працаздольнасці і ведах.



Якуб Адамавіч, 1965

І гэта ўстаноўка разам з уласцівай татарам-мусульманам добрасумленнасцю, адказнасцю і працавітасцю сталі рухавіком яго жыцця. Праз усё жыццё ён вучыўся: У 1957–1962 гг. заканчвае стацыянарнае аддзяленне геаграфічнага факультэта БДУ, 1979–1982 гг.– завочна той жа Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут імя М.Горкага па спецыяльнасці "гісторыя, грамадазнаўства", 1985–1989 гг. – той жа інстытут па спецыяльнасці "беларуская мова і літаратура". І ўсе дыпломы з адзнакай, што, несумненна, вельмі радавала. Жартаўліва ганарыўся і тым, што ён быў "самым старым студэнтам педінстытута". Акрамя таго вучыўся яшчэ (*прымусова, як усе, хаця і не быў ніколі ў партыі камуністаў*) ва Універсітэце

марксізму-ленінізму, спецыяльнасць "сацыялогія", і на Рэспубліканскіх курсах павышэння кваліфікацыі кіруючых, партыйных і савецкіх кадраў.

Гэты пералік спецыяльнасцей, што набыў Якуб Адамавіч за сваё жыццё, уражвае сам па сабе. Аднак нельга не сказаць яшчэ, як ён вучыўся. Па меры асваення чарговага курса наша хатняя бібліятэка напаўнялася поўным наборам падручнікаў для студэнтаў і для школ па спецыяльнасці, якія штудзіраваліся ад вокладкі да вокладкі. Кожная курсавая работа і дыпломная ператваралася ў глыбокае даследаванне накшталт кандыдацкай дысертацыі. Тэмы для іх ён выбіраў сам. Найбольш запомнілася курсавая, прысвечаная Адаму Міцкевічу. Канечне, была паднята не толькі ўся даступная ў бібліятэках літаратура на рускай, польскай і беларускай мовах, але і сабраны копіі ўсіх партрэтаў паэта, ілюстрацыі да твораў і некаторыя творы ў арыгінале *(напрыклад, рэдкае варшаўскае выданне "Sonety krymskie")*, ці ў перакладзе на беларускую мову *("Пан Тадэвуш" у перакладзе Я.Семяжона і цудоўным афармленні В.Шаранговіча)*. Але найбольшай каштоўнасцю, што ён адшукаў і якая яго надта цешыла, былі лекцыі, што чытаў Адам Міцкевіч па славянскай літаратуры ў Сарбоне. Якуб Адамавіч зачытваў нам вытрымкі з іх, дзівіўся глыбіні, з якой А. Міцкевіч ведаў і разумеў славянскую літаратуру, лічыў, што ніхто не пераўзышоў паэта ў даследаванні гэтай літаратуры яго часу.

Асобна стаіць аспірантура на геаграфічным факультэце БДУ, якую ён скончыў у 1968 г. Пад кіраўніцтвам прафесара Заўрыева ён даследаваў тэрмічны рэжым малых азёр на поўначы Беларусі. Былі выкананы палявыя назіранні за тэмпературай па вертыкалі ў тоўшчы вады і па плошчы вадаёмаў на дзесятках станцый на працягу трох год. Да назіранняў падключаліся браты, студэнты, будучая жонка. Тады ён набыў сваіх верных сяброў сярод студэнтаў – Пецю Бурдыка і Валерыя Ярцава, якіх заахвоціў да навуковых даследаванняў, з якімі не разлучаўся ўсё жыццё. Усе назіранні былі апрацаваны, пабудавана графіка, напісаны некалькі раздзелаў, кожны па памеры як асобная дысертацыя *(тут выявіўся ўласцівы яму максімалізм)*.

Аднак за гады вучобы ў аспірантуры адбыліся падзеі, якія змянілі арыенціры Якуба Адамавіча. Ён ажаніўся, нарадзілася дачка, але галоўнае – у 1968 годзе Я.А. Якубоўскі стаў загадчыкам галіновай рэдакцыі геаграфіі і геалогіі ў Галоўнай рэдакцыі Беларускай Савецкай Энцыклапедыі *(так тады называлася ўстанова)*. Энцыклапедычная справа на Беларусі распачыналася, фактычна, толькі з 1967 г., калі стварыўся калектыў супрацоўнікаў. У яго прышлі вядомыя пісьменнікі, навукоўцы. Галоўную рэдакцыю ўзначаліў народны паэт БССР Пятрусь Броўка, тэрміналагічную камісію – народны пісьменнік Кандрат Крапіва. Калектыў быў ахоплены энтузіазмам, творчым натхненнем. Трэба было выпрацаваць канцэпцыю ўніверсальнага нацыянальнага энцыклапедычнага выдання, бо нічога падобнага ў іншых рэспубліках СССР яшчэ не было. За ўзор можна было скарыстаць толькі 10-томную "Малую Советскую Энциклопедию", што на той час ужо была завершана ў Маскве, у рэдакцыі "Большой Советской Энциклопедии". Але паўставала мноства пытанняў: якія павінны быць

суадносіны беларускага і ўніверсальнага матэрыялу, што можа ўвайсці ў галіновыя раздзелы, як складці слоўнікі і як іх абмеркаваць з шырокай навуковай і, канечне, і з партыйнай, грамадскасцю, як стварыць патрэбныя і арыгінальныя ілюстрацыі і карты, як падабраць аўтарскі калектыў і шмат-шмат іншых. Умовы максімальна магчымай на той час дэмакратычнасці, мяккага кіравання, мінімальнага адміністрыравання і бюракратызацыі, што ўсталяваліся не без уплыву Петруся Броўкі, вельмі спрыялі паспяховай рабоце. І такі факт, што напачатку Галоўны рэдактар займаў кабінет Якуба Коласа, таксама дапамагаў наладжванню справы, бо кожны, хто ступаў на вялікі кілім у Коласаўскім кабінеце, быццам бы адчуваў сябе пераемнікам справы Вялікага Песняра.

Перспектывы ўдзелу ў справе стварэння першай беларускай энцыклапедыі захапілі цалкам. У параўнанні з імі аспірантска-дысертацыйныя справы падаліся дробязнымі, меркантыльнымі, яны былі забытыя. Работа вымагала многа часу і ўсіх сіл, забяспечвала матэрыяльна: аклад загадчыка рэдакцыі ў той час быў нават крыху большы, чым у шараговага кандыдата навук. Якуб Адамавіч па сваіх ведах і вопыту навуковай працы быў добра падрыхтаваны да энцыклапедычнай справы. Ён патрапіў у Свой Лёс: у патрэбны час быў у патрэбным месцы.

І плён энцыклапедычнай працы радаваў, жыццё перацякала ў тамы энцыклапедычных выданняў. Спачатку 12-томная ўніверсальная БелСЭ, за якую разам з калегамі ў 1976 г. атрымаў званне лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР "за заслугі ў адраджэнні нацыянальнай свядомасці і культуры беларускага народа". Потым на базе гэтага выдання пяцітомнікі "Беларуская ССР. Кароткая энцыклапедыя" на беларускай і рускай мовах і "Энцыклапедыя прыроды Беларусі" таксама ў 5-ці тамах. Гэта выданне аб прыродзе Беларусі рыхтавалася разам з рэдакцыяй біялогіі, загадчыкам якой тады быў Н.А. Дзісько. Яно было любімым стварэннем Якуба Адамавіча, бо ў ім задалося ўвасобіць свае прынцыпы, сваё бачанне энцыклапедычнага выдання аб прыродзе рэгіёну. Начальства, калегі і супрацоўнікі падзялялі амаль усе навацыі загадчыка рэдакцыі геаграфіі, геалогіі і геафізікі (*так тады называлася рэдакцыя*) і не вельмі абмяжоўвалі ні памер артыкулаў, ні ўсяго выдання, распрацоўвалі такія артыкулы, якія раней не давала ні адно энцыклапедычнае выданне. За пяць гадоў, пакуль рабілася энцыклапедыя (выйшла ў 1983–1986 гг.), лепшыя вучоныя – геолагі, географы, эколагі і біёлагі з навукова-даследчых і вышэйшых навучальных устаноў Беларусі – былі згуртаваны вакол выдання як аўтары арыгінальных артыкулаў. Яны падсумавалі вынікі сваіх работ па асноўных напрамках рэгіянальных даследаванняў. Фактычна, "Энцыклапедыя прыроды Беларусі" адлюстроўвае стан беларускай прыродазнаўчай навукі ў сярэдзіне 80-ых гадоў дваццатага стагоддзя.

Потым былі іншыя выданні – аднатомнік "Прырода Беларусі" на дзвюх мовах, даведнікі па ўсіх абласцях Беларускай ССР, "Блакітная кніга Беларусі". Усяго больш чым на 30 тамах розных энцыклапедычных выданняў стаіць прозвішча Якубоўскага Я.А., у асноўным як загадчыка галіновай рэдакцыі, гэта значыць, арганізатара і рэдактара ўсіх артыкулаў па профілю рэдакцыі.

За час работы ў рэдакцыі энцыклапедыі Якуб Адамавіч сабраў багатую ўласную бібліятэку, дзе былі амаль усе патрэбныя для працы слоўнікі, як энцыклапедычныя, так і спецыяльныя, статыстычныя зборнікі, навуковыя выданні, што выходзілі на Беларусі па геалогіі, геаграфіі, эканоміцы і інш. Ён любіў мець пад рукой усю даведачную літаратуру і, як ніхто, добра ў ёй арыентаваўся.


Дачка Якуба Адамавіча Яўгіня, 1984

Якуб Адамавіч часам быў, як кажуць цяпер, нязручным як для начальства, так і для падначаленых. Занадта ініцыятыўны, прынцыповы, працавіты прафесіянал часам выказваў свае меркаванні і ў рэзкай форме, ніколі не хітраваў і ніколі не задумваўся, ці на карысць яму самому такія паводзіны. Аднак усе бачылі, што ён клапоціцца толькі аб справе, нідзе не шукае сабе карысці. Для самога Якуба Адамавіча работа ў рэдакцыі энцыклапедыі, акрамя магчымасці найлепшым чынам рэалізаваць свае здольнасці і веды, мела і такі прыцягальны і неабходны для яго адкрытай натуры бок, як мець стасункі з вялікай колькасцю цікавых людзей – аўтараў, рэцэнзентаў, калег з аналагічных рэдакцый іншых рэспублік. Кола яго знаёмстваў на той час было вельмі шырокім, з ім, як правіла, ахвотна супрацоўнічалі, а потым нярэдка прадаўжалі падтрымліваць сяброўскія адносіны.

Энцыклапедычны перыяд працы Якуба Адамавіча доўжыўся 35 гадоў. Якраз на яго прыпалі ўсе гады завочнай вучобы ў ВНУ, на якую звычайна траціліся чарговыя адпачынкі. Займацца павышэннем сваёй адукацыі і ўвесь вольны час прысвячаць самаўдасканаленню было спосабам жыцця. Клопаты аб здароўі лічыў прыкметай дрэннага тону. З цягам часу намножылася стомленасць, адчуваўся душэўны дыскамфорт, як звычайна бывае пры набліжэнні пенсійнага ўзросту. А тут яшчэ ў 1989 годзе на руках у Якуба Адамавіча памірае старэнькая маці, якая апошнія 10 год жыла ў кватэры сына. У той жа час Якуб Адамавіч добраахвотна адмаўляецца ад пасады загадчыка рэдакцыі на карысць маладога калегі. Гэты **ўчынак** здзівіў і калег і начальства, бо ніхто яго не папракаў, што не спраўляецца з абавязкамі.

Аднак крызісны стан духу быў нядоўгім. У канцы 1980-ых – пачатку 1990-ых гадоў адкрыліся магчымасці для нацыянальнага адраджэння беларусаў і іншых народаў, што жывуць на нашай зямлі. Якуб Адамавіч заўсёды пачуваў сябе татарынам, ніколі не хаваў гэтага. Хацеў, каб так пачувалі сябе і яго дзеці, дачка і сын пад яго ўплывам запісаны ў пашпартах татарамі. Якраз тады, калі яшчэ вучыўся на апошнім курсе педінстытута, праз выкладчыцу беларускай мовы і літаратуры М.Ф. Шаўлоўскую пазнаёміўся з татарынам, дацэнтам гістарычнага факультэта Ібрагімам Барысавічам Канапацкім. Гэта знаёмства стала вызначальным у яго далейшым

жыцці. Жадаючага лёс вядзе, Якуб Адамавіч знайшоў сабе не толькі паплечніка і аднадумца ў татарскіх справах, але і вернага сябра.

Разам абмяркоўвалі планы работы па адраджэнні культурнага і рэлігійнага жыцця ў татарскіх абшчынах Мінска, Мінскай вобласці і ўсёй Беларусі. Шукалі зацікаўленых у гэтай справе татар, абапіраліся на яброўства і падтрымку ў асяроддзі беларускай інтэлігенцыі, наладжвалі сувязі з татарамі ў Маскве, Казані, Крыме, Літве, Польшчы, са студэнтамі з арабскіх краін, што вучыліся ў Мінску. Марылі аб адраджэнні Мінскай мячэці і іншых зруйнаваных мусульманскіх храмаў, бо на той час засталася адзіная на ўсю Беларусь мячэць ў Іўі. Як асабістую трагедыю перажывалі факт нядаўняга вандалізму – разбурэнне Мінскага мізара і падрыхтоўкі на яго месцы пляцоўкі пад спартыўнае збудаванне.

І ў хуткім часе з'явіліся першыя добрыя вынікі татарскага руху. У 1990 г. было створана грамадска-культурнае аб'яднанне Мінскай вобласці "Аль-Кітаб", якое крыху пазней *(1991 г.)* ператварылася ў Згуртаванне татар-мусульман на Беларусі "Аль-Кітаб", прэзідэнтам якога быў абраны тагачасны дырэктар гімназіі Абубекір Шабановіч. У красавіку 1991 г. выходзіць першы нумар часопіса гэтага згуртавання – квартальніка "Байрам. Татары на зямлі Беларусі", накладам у 500 паасобнікаў на беларускай мове. У квартальніку акрэслена кола асоб і ўстаноў, якія спрыялі з'яўленню часопіса, падтрымлівалі яго. Сярод іх не толькі татары Э. Асановіч, М. Баркоўскі і іншыя, але і знакамітыя беларускія навукоўцы і пісьменнікі Р. Барадулін, А. Грыцкевіч, М. Ермаловіч, Г. Каханоўскі, Ч. Кудаба *(Вільнюс)*, М. Ткачоў, К. Тарасаў і іншыя. Прашу прабачэння, што не ўсіх паважаных сяброў "Байраму" пералічваю, гэта заняло б многа месца. Складальнік і рэдактар часопіса, якім фактычна быў тады Якуб Адамавіч, у кожным нумары стараўся адзначыць прыхільнікаў і памочнікаў, прабачце і яго, калі не ўсе своечасова былі аддзячаны.

На той час Якуб Адамавіч сваё месца і свае мэты ў агульнай справе беларуска-татарскага адраджэння звязваў з гэтым часопісам. Ён заняўся журналісцкай справай: вызначаў тэматыку кожнага нумара, шукаў аўтараў, арганізоўваў усе матэрыялы, пісаў прадмовы. Быў ён доўгі час і наборшчыкам – друкаваў на нашай хатняй машынцы ўсе артыкулы, і вярстальшчыкам – манціраваў іх у арыгінал-макет, і карэктарам – вычытываў гранкі, і экспедытарам – забіраў з друкарні тыраж і распаўсюджваў часопіс. І ўсё гэта рабілася ў хаце, першыя два гады – пасля працоўнага дня і ў выхадныя. Гэта была чыста аматарская справа, можна сказаць, хоббі, бо не адзін нумар "Байраму" напачатку выдаваўся на сродкі самога рэдактара і І.Б. Канапацкага.

Да моманту выхаду на пенсію былі знойдзены прывабныя мэты ў жыцці, якія адпавядалі патаемным ганарлівым памкненням пакінуць па сабе добрую памяць у справах. Таму на пенсію пайшоў ахвотна ў дзень свайго афіцыйнага 60-годдзя – 4 красавіка 1992 года. Мне здаецца, нічога дрэннага ў імкненні мужчыны да славы няма, наадварот, такое імкненне толькі спрыяе плёну яго жыцця, хаця супярэчыць савецкаму выхаванню. Усім вядома, што і Дантэ марыў аб лаўровым вянку і дамогся яго пры жыцці, аднак у савецкім

грамадстве вельмі негатыўна ставіліся да носьбітаў такіх імкненняў, было прынята іх хаваць. У Якуба Адамавіча на дзіва арганічна спалучаліся глыбіннае імкненне да славы і гіпертрафіраваная сціпласць.

З выхадам на пенсію прышла поўная свабода для рэалізацыі сваіх новых планаў. А яны на волі пачалі шырыцца і станавіцца ўсё больш дзёрзкімі. Хутка ўзнікла ідэя стварэння энцыклапедычнага выдання "Татары Беларусі, Літвы і Польшчы". Хатняя бібліятэка імкліва стала напаўняцца даступнай і цяжкадаступнай літаратурай не толькі пра гісторыю татар на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага, але і крыніцамі рэлігійнага зместу, прычым не толькі па ісламу *(было сабрана 7 выданняў Карану на розных мовах, у т.л. на польскай )*, але і па хрысціянству, іудаізму, буддызму. Упрыгожвалі гэты кнігазбор даследаванні Y. Tyszkewicza "Tatarzy na Litwe i w Polsce", А.К. Антоновича "Белорусские тексты, писанные арабским письмом, и их графико-орфографическая система" і "Кітаб", што адшукаўся ў радні маці.

З чаго пачынаецца кожная энцыклапедыя, Якуб Адамавіч добра ўяўляў. Са слоўніка – пераліку ўсіх тэрмінаў, пра якія будуць артыкулы у энцыклапедычным даведніку. Меркавалася, што па меры публікацыі ў "Байраме" праекта гэтага слоўніка *(па меры яго складання)*, будуць паступаць шматлікія прапановы па яго ўдакладненні і пашырэнні. Аднак прыцягнуць шырокія колы чытачоў да гэтай стваральнай працы не задалося. Ды яно і зразумела, бо для яе патрэбна спецыяльная падрыхтоўка і грунтоўныя веды. Веды ж пра татар Беларусі таксама намнажаліся паступова. Аднаўленне пласта за пластом напаўзабытай гісторыі і культуры гэтага народа было магчыма толькі разам з адраджэннем праўдзівай гісторыі беларусаў, у асяродку якіх 600 гадоў жылі татары, мовай якіх карысталіся, захоўваючы сваю рэлігію, пабытовы ўклад і, часткова, культурныя традыцыі. Лёсы беларускіх татар і карэннай нацыі настолькі цесна спляліся, сталі непадзельнымі, што раздзяліць іх гісторыю таксама аказалася немагчымым. Таму ў слоўнік энцыклапедычнага даведніка па меры працы над ім ўключаліся тэрміны, што, на першы погляд, і не тычыліся татар. Таму і першапачатковая назва энцыклапедычнага даведніка "Татары" *(беларускія, літоўскія і польскія)* некалькі разоў удакладнялася і нарэшце трансфарміравалася ў "Энцыклапедыю для беларускіх татараў" *("Байрам", 1998, №1, с. 70)*. Канцэпцыя яго была выкладзена ўжо ў 1992 г. у артыкуле Я. Якубоўскага "Разважанне пра даведнік аб татарах" *("Байрам". № 2, 1992, с. 71)*, а ў № 3 за той жа год ужо быў надрукаваны слоўнік энцыклапедычнага даведніка "Татары Беларусі, Літвы і Польшчы" на літару А з кароткімі дэфініцыямі. Там жа апублікаваны і першыя пробныя артыкулы да гэтага даведніка. Цікава, што першым Якуб Адамавіч змясціў артыкул: "АДАМ, першы чалавек, створаны Аллагам, пачынальнік роду чалавечага, прапаведнк і прарок *(расул)* Аллага..." У гэтым Якуб Адамавіч як бы сцвярджаў гуманістычны падмурак будучага выдання.

Такім чынам, ужо ў 1992 годзе склаліся будучыя прыярытэты ў жыцці Якуба Адамавіча. Асноўныя мэты заключаліся ў стварэнні энцыклапедычнага даведніка *(думалася нават, што задасца яго зрабіць да 600-годдзя пасялення татар на землях Беларусі, Літвы і Польшчы ў 1997 г.)*, напісанні 300 пробных *(узорных)* артыкулаў да яго і выданні квартальніка "Байрам" *(канечне, з дапамогай усёй татарскай грамады)*. Але праца па складанні слоўніка ішла не так хутка. Максімалізм і тут замаруджваў справу. Некаторыя раздзелы вымагалі спецыяльнага даследавання, і Якуб Адамавіч з уласцівай яму адвагай распачынаў яго сам. Так, шмат часу вымагалі даследаванні цюркізмаў у беларускай мове. З паўгода ён правёў у бібліятэках, вывучаючы пытанне, складаючы картатэку паводле "Словаря тюркизмов в русском языке" Е.М. Шыпавай, адшукваючы цюркізмы ў пяцітомным "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" і ў трохтомным "Слоўніку беларускай мовы" пад рэдакцыяй М.В. Бірылы і інш. Нарэшце, на складанне самога слоўніка цюркізмаў з указаннем крыніц, што ўвабраў больш за 600 слоў. Тады ў хаце з'явілася шматтомнае навуковае выданне "Языки народов СССР". Захапляючыся самім працэсам даследавання, Якуб Адамавіч зусім не клапаціўся аб публікацыі вынікаў у навуковым друку. Гэты ўнікальны слоўнік цюркізмаў ён надрукаваў у "Байраме", 1995, № 4, с. 39–42, аб чым мала хто ведае, ды падараваў яго Паслу Турэцкай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь шаноўнай спадарыні Шуле Сойсал.

І такіх праблем было нямала, а вырашаць іх даводзілася найчасцей самому. Пробныя артыкулы не ўсе рабіў Якуб Адамавіч, але якія рабіў сам, то з максімальным ахопам праблемы. Такім арыгінальным быў артыкул "Жыта", бо ён справядліва лічыў гэту культуру асновай існавання людзей на зямлі беларусаў, укладаў душу і ў цыкл артыкулаў пра пчалярства *(бортніцтва)*, ды ці ні ў кожны, што рыхтаваў. Аднак знайсці цяпер, якія артыкулы зроблены самім Якубам Адамавічам, немагчыма, бо большасць энцыклапедычных артыкулаў робяцца кампіляцыйна, і ён не лічыў магчымым нават пазначыць, што склаў іх Я. Якубоўскі. Наогул усё жыццё Якуб Адамавіч прытрымліваўся правіла, што свае добрыя справы мусульманін не павінен афішыраваць. Калі іх рабіць патаемна, то яны прыносяць людзям найбольшую карысць.

Пры падрыхтоўцы нумароў "Байраму" вымагалі асобай увагі і іншыя сталыя рубрыкі, што былі ўведзены ад першага нумара, ды новыя, што з'явіліся з часам. Іх трэба было пастаянна фарміраваць, дамаўляцца з аўтарамі, што былі занятыя на працы, напамінаць ім пра тэрміны падрыхтоўкі, ездзіць па гатовыя матэрыялы. Такімі матэрыяламі былі пераклад "Кур'ана" на беларускую мову, крымскататарска-беларускі слоўнік, беларуска-рускі слоўнік татарскіх імёнаў, стравы татарскай кухні і шмат іншых. Ён жа прыдумваў многія цікавыя тэмы для публікацыі ў квартальніку і абавязкова знаходзіў выканаўцу сваёй задумы. Так на старонках "Байрама" надрукаваны артыкулы пра менталітэт, беларусазнаўства і іншыя, быццам не татарскай тэматыкі, але цікавыя для сучаснікаў.

Пісаць пра працу над часопісам можна бясконца, яна захапляла Якуба Адамавіча, хаця ён і імкнуўся часам вызваліцца ад яе на карысць энцыклапедычнай. Але да апошніх дзён, да карэктуры № 1 за 1998 г, што ён вычытаў у ліпені 1998 г., за месяц да адыходу ў другі свет, ён не пакінуў гэту справу. Здабыткі і недахопы гэтай працы грунтоўна даследаваў паважаны Леанід Лыч, ў нумары, які трымае чытач ў руках, перадрукаваны адпаведны артыкул.

Але аб прадмовах да кожнага нумара квартальніка мне хочацца сказаць асобна некалькі слоў. Якуб Адамавіч звычайна доўга над імі думаў, шукаў тэму, хоць там і даваўся звычайна агляд важнейшых падзей у свеце, найперш у мусульманскім, і ў Беларусі. Але заўсёды быў лейтматыў, галоўная думка, якая даводзілася чытачу мякка, як у пропаведзі. Некаторыя прадмовы здаюцца зусім наіўнымі, крыху дзіцячымі ад шчырасці і даверу да чытача, радзей жартаўлівымі па форме, але вельмі сур'ёзныя па сутнасці. Возьмем хаця бы апошнюю, у тым жа № 1 за 1998 год. Пачаўшы з уласцівасці чалавечай памяці захоўваць толькі найбольш яскравыя, святочныя эпізоды жыцця, аўтар пераходзіць да вечных пытанняў: для чаго жыве чалавек, і ў чым яго шчасце. Для яго гэтыя пытанні звязаны, бо лічыць, што чалавек прышоў на зямлю для шчасця. "Шчасце прыходзіць да кожнага чалавека, толькі не ў кожнага яно жыве доўга. Ці то ён сам вінаваты, што не збярог яго, ці нейкія абставіны, а то і прыяцелі абрабавалі". І ў заключэнне, як акорд усяго яго Жыцця: "Вялікае шчасце быць здаровым, мець добрых дзяцей, выконваць свой абавязак – абавязак мусульманіна". Свой абавязак Якуб Адамавіч выканаў, ды здароўя ужо не было, але добрыя дзеці радавалі яго сваімі поспехамі, чулымі адносінамі, мэтанакіраванасцю, працавітасцю і шчырасцю.


Апошні здымак пры жыцці. Якуб Адамавіч у бальніцы разам з Янам Сабалеўскім (злева) і Ібрагімам Канапацкім

Засталіся яшчэ таксама цікавыя артыкулы, падрыхтаваныя Якубам Адамавічам да "Мусульманскіх календароў" за 1996–1998 гады. Для аднаго ён склаў 12 нарысаў пра знакамітыя мячэці свету, у другі – пра буйнейшыя арабскія краіны, дзе вызнаюць іслам. Усе, што рабіў гэты чалавек, было зроблена грунтоўна і сумленна. Працаваў ён хутка, не адкладаючы спраў. Збіраў матэрыял у нумар ці чытаў карэктуру "Байраму" як мага хутчэй. Чакаў такой жа працы і ад іншых. Таму за апошнія 6 гадоў свайго жыцця зрабіў так многа, што хапіла бы на цэлае жыццё пры іншых, жыццезберагальных тэмпах. За гэтыя гады знайшоў новых сяброў, яны яму трапляліся ў падарожжы, як дырэктар школы з Нальшчаншчыны Ул. Прыхач, або знаходзіліся

па газетных публікацыях, як М. Маліноўскі, да якога Якуб Адамавіч сам паехаў у Баранавічы, каб пазнаёміцца і потым часцей, чым з іншымі, ліставацца.

Быў вельмі шчаслівы, калі спадары А. Грыцкевіч і А. Белы ўручылі яму самую дарагую ў жыцці ўзнагароду – "За выданне на беларускай мове квартальніка беларускага згуртавання татар-мусульман "Байрам" і актыўны ўдзел у татарскім і беларускім нацыянальна-культурніцкім адраджэнні" – медаль Міколы Шчакаціхіна "За братэрскае спрычыненне ў развіцці культуры і навукі Беларусі" і адпаведны дыплом з занясенем, у ліку першых, разам з Ібрагімам Канапацкім, у кнігу гонару "Рупліўцы твае, Беларусь". Было гэта 22 сакавіка 1998 года.

У красавіку 1998 года была дадрукавана на машынцы апошняя старонка слоўніка да "Энцыклапедычнага даведніка для татар Беларусі", 10000 тэрмінаў з дэфініцыямі. Адзін экзэмпляр гэтага слоўніка захоўваецца цяпер у Нацыянальным дзяржаўным архіве Рэспублікі Беларусь, другі – у Ібрагіма Канапацкага, трэці – у хаце Якубоўскіх. І мы разам з Якубам Адамавічам спадзяемся, што прыдзе час, калі ў "Выдавецтве Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі на падставе гэтага слоўніка будзе зроблена "Энцыклапедыя для татар Беларусі".

Быў складзены таксама і кароткі варыянт слоўніка на 3 000 тэрмінаў. Перакладзены на беларускую мову рэцэпты 500 татарскіх страў для энцыклапедыі. Напісаны і выходзілі ў апошнім "Байраме" апошнія 12 з 350 пробных артыкулаў для энцыклапедыі.

Аднойчы майскім вечарам Якуб Адамавіч паставіў кропку пад кулінарнымі перакладамі, адкінуўся ў крэсле і сказаў: "Усё! Выканаў!". Мы парадаваліся разам, нічога не прадчуваючы. Справы жыцця былі прыведзены ў парадак, мэты дасягнуты. Можна было адпачываць першы раз за многія гады. Аднак наканавана было іншае... У чэрвені хутка і загадкава пачала прагрэсіраваць хвароба, думалася, язва. Аднак дыягназ прагучаў у канцы ліпеня як прысуд: аблітэрыруючы эндартэрэіт сасудаў ног як спадарожнік ішэмічнай хваробы сэрца. Мне стала да жаху ясна, што яго чакае тое ж, ад чаго памёр яго бацька... Урачы не пакідалі ніякай надзеі, так запушчана была хвароба. Бальніца толькі пагоршыла стан хворага. Пераносіў страшэнны боль мужна і сябрам не падаваў нават знаку, як яму кепска. Ніхто не верыў, што ўжо нічога нельга зрабіць, так мужна, нават жартуючы, ён адыходзіў... За месяц да канца напісаў цвёрдай рукой для родных памятку "Як хаваць мусульманіна" з падрабязным апісаннем мусульманскага абраду... За 10 дзён да адыходу перакладаў з польскай мовы артыкул пана Яна Сабалеўскага, седзячы за сталом. А сілы пакідалі: "Не магу", – прызнаўся з горыччу. На той недапісанай старонцы ўжо памылкі амаль у кожным няроўным слове...

Сябры-мусульмане з вялікай пашанай пахавалі Якуба Адамавіча 15 верасня 1998 года на старажытных татарских могилках *(мізары)* ў Смілавічах, пад векавой хвояй, што шуміць аб вечнасці жыцця над яго апошнім прытулкам. Каля магілы, абкладзенай па татарскаму звычаю беларускімі валунчыкамі, праходзіць сцяжынка, і кожны, хто ідзе па ёй, тут спыняецца, хто можа, чытае малітву, хто проста

маўчыць у задуменні, прачытаўшы на камяні "Аллагу належым і да яго вяртаемся...".

Апошнім часам Якуб Адамавіч не аднойчы казаў сыну, што жыць трэба так, як вучыць мудрасць з крымска-татарскай легенды аб Сокале і Вужы (*што мы ўсе чыталі ў М.Горкага*), каб пра цябе і казкі маглі расказаць нашчадкі, і песні праспяваць. Сам Якуб Адамавіч таксама стварыў некалькі казак. Адна з іх пра тое, што гісторыю можна паправіць, аднавіць справядлівасць. Ён шчыра верыў, што па дамоўленасці паміж Польшчай і Беларуссю можна вярнуць выкрадзеную карону караля, якую везлі ад Папы Рымскага на каранаванне Вялікага князя Літоўскага Вітаўта. Трэба змайстраваць такую самую карону, прывезці яе ў Гродна, у замак Вітаўта і там наладзіць урачыстую каранацыю. І тады ўжо Вялікі Вітаўт заўсёды будзе ўпамінацца як Кароль Вялікага Княства Літоўскага (*гл. "Запавет старога татарына" у "Байраме" № 3 за 1998 г.*). А песню Якуба Адамавіча такама спяваюць, бо ён напісаў вершы да гімна татар Беларусі "Мы з Іманам жывем на зямлі Беларусі", музыку да якога склала Дзінара Мазітава. Таму справы Якуба Адамавіча, справы Асветніка і Руплівуцы за адраджэнне душы татарскага і беларускага народаў засталіся з намі на зямлі і будуць жыць, пакуль жыць будуць яго нашчадкі.

25 сакавіка 2002 г. **Таццяна Якубоўская**



## МОЙ СТАРЭЙШЫ СЯБРА – ЭНЦЫКЛАПЕДЫСТ ЯКУБ АДАМАВІЧ ЯКУБОЎСКІ

Мне пашчасціла ў жыцці, што на працягу многіх гадоў маімі сябрамі былі выдатныя людзі, памяць аб іх захавалася на ўсё жыццё. І першым па сіле ўздзеяння на маю свядомасць, светапогляд, адносіны да жыцця і людзей быў Якуб Адамавіч Якубоўскі. Гэта быў незвычайны чалавек, як зорка, вакол якой, захопленыя прыцяжэннем яго інтэлекту, групаваліся вельмі розныя людзі. І гэтыя людзі пад яго моцным уплывам рабіліся лепшымі, гублялі свае адмоўныя рысы. І аднойчы трапіўшы на яго арбіту ўжо ніколі не адрываліся, заставаліся сябрамі да канца і вернымі добрай памяці аб ім пасля яго заўчаснай смерці.

Ён быў простым чалавекам: без выдатных знешніх якасцей, з не вельмі добрым здароўем, у не модным адзенні, у вялікіх пукатых акулярах. Але з першай сустрэчы прыцягваў да сябе добразычлівасцю, гумарам, эрудыцыяй, павагай да суразмоўцы. Гутаркі з ім у студэнцкім інтэрнаце, на працы, па дарозе дадому захаплялі гармоніяй думак і пачуццяў, слоў і фактаў, якія выкладаліся не толькі максімальна лагічна, але і максімальна зразумела, лёгка, на адным дыханні. І нават вельмі сур'ёзныя тэмы ў большасці выпадкаў мякка спалучаліся з тонкім гумарам, які прасвечваў праз шматлікія факты і доказы.

Я на сваім вяку прачытаў тысячы энцыклапедычных даведак пра выдатных дзеячоў навукі, культуры, палітыкі і інш. і магу сцвярждаць, што Якуб Адамавіч быў неардынарным Чалавекам. І не толькі таму, што ён скончыў 5 ВНУ *(ужо за гэта мог быць занесены ў кнігу рэкордаў Гінеса)*, што з-за сваёй сціпласці не падпісаў сваім іменем сотні зробленых ім энцыклапедычных і не энцыклапедычных артыкулаў, што быў малавядомым ініцыятарам каштоўных выданняў, якія сталі прыкметнай з'явай у культуры Беларусі, але і таму, што ён быў добрым сябрам, узорам, якім мы, маладзейшыя, захапляліся.

У далёкім 1958 г. мы, студэнты 3-га курса геафака БДУ, пачулі, што на 2-м курсе з'явіўся цікавы навічок, перавёўся з завочнікаў, што ён вельмі адукаваны. Быў значна старэйшы за сваіх новых аднакурснікаў, меў жыццёвы вопыт – ужо 7 гадоў працаваў вясковым настаўнікам, скончыў педінстытут. Неяк пры наведванні сваіх аднакурснікаў у інтэрнаце на вуліцы Свярдлова мы і пазнаёміліся. Ён мяне прыемна ўразіў сваімі ведамі, цікавасцю і любоўю да навукі. Яго аднакурснікам было лёгка рыхтавацца да экзаменаў і залікаў, выкарыстоўваючы яго кваліфікаваныя кансультацыі. Пасля зімовай сесіі да меркавання аб яго выдатных здольнасцях далучыліся і выкладчыкі. Наша знаёмства праз дзесяць гадоў перарасло ў цеснае сяброўства ўжо ў сценах БелСЭ. А да таго нашы шляхі не раз перасякаліся на геафаку, у Гідраметэаслужбе, у бібліятэках і кнігарнях, дзе я не раз сустракаў Якуба Адамавіча з яго малодшым братам Браніславам, што вучыўся тады ў Мінскім фінансавым тэхнікуме.

У 1967 г. пачалася эпоха Беларускай Энцыклапедыі. Было прынята рашэнне аб стварэнні энцыклапедычнага выдавецтва, галоўным рэдактарам якога стаў Пятрусь Броўка. Загадчыкам рэдакцыі геаграфіі і геалогіі ў пачатку 1968 г. стаў Якуб Адамавіч Якубоўскі. У яго ў мінулым была аспірантура, гады вучобы і работы ў школе, наперадзе – праца па стварэнні першай энцыклапедыі ў Беларусі. Цяжкасцей было шмат: падбор калектыву рэдакцыі і шырокага аўтарскага кола, распрацоўка тэрміналогіі, многіх тэм і раздзелаў геаграфічнай і геалагічнай навукі. У асобе Я.А. Якубоўскага Беларуская Энцыклапедыя знайшла выдатнага энцыклапедыста і рэдактара. Энцыклапедыі не былі патрэбны рамеснікі, людзі-аўтаматы, без творчай жылкі. Якуб Адамавіч хутка ўвайшоў у работу. Без яго грунтоўных выступленняў не абыходзілася ніводнае абмеркаванне слоўнікаў, макетаў, гранак, вёрсткі. Яго праца з аўтарамі, падрыхтоўка і апрацоўка артыкулаў, іх рэдагаванне і нярэдка рэцэнзаванне былі наладжаны на высокім прафесійным узроўні. Не ўсім кіраўнікам падабаліся смелыя выступленні Якуба Адамавіча. Ён займаў асобую пазіцыю па многіх пытаннях, пачынаючы ад рэпрэсіраваных вучоных да праблемы аб'ектыўнага адлюстравання эканомікі замежных краін. Кіроўныя пажаданні паказваць "загніванне" капіталізму, "грандыёзныя поспехі" краін сацыялістычнага лагера не мелі падставы нават у лічбах маскоўскіх выданняў, не гаворачы ўжо пра звесткі ААН. Некаторыя кіраўнікі і іх прыдзіркі моцна папсавалі здароўе Якуба Адамавіча. Часта ўзнікалі прапановы замяніць беспартыйнага загадчыка на праверанага камуніста,

былі захады па умацаванні беспартыйнай рэдакцыі партыйнымі кадрамі. Загадчыку рэдакцыі прыходзілася рэдагаваць іх артыкулы і нават выконваць за іх план. Траплялі на ўмацаванне рэдакцыі нават прапойцы-камуністы, адзін з іх папрацаваў тыдзень і знік разам з бібліятэчнымі кнігамі і аўтарскімі экзэмплярамі артыкулаў.

А Якуб Адамавіч працаваў, стараючыся не зважаць на такія праявы начальніцкай увагі. Ён прыходзіў на працу раней за ўсіх, сыходзіў апошнім, працаваў, калі трэба, у выхадныя і ў адпачынак. Асноўным яго патрабаваннем да супрацоўнікаў тады было: *"У энцыклапедыста не павінна быць іншага хоббі, акрамя энцыклапедыі"*. І разам з тым, ён быў вельмі мяккі чалавек. Ён не папракаў падначальнага рэдактара за недахопы, а карэнным чынам перапрацоўваў яго дрэнны артыкул, а то і сам за яго пісаў, перадрукоўваў для здачы ў кантрольныя рэдакцыі, і рэдактару заставалася толькі падзякаваць.

Дзяржаўная прэмія за стварэнне 12-томнай БелСЭ — заслужаная ўзнагарода за нястомную творчую працу Якуба Адамавіча.

Да ліку вельмі важных ініцыятыў Якуба Адамавіча адносіцца ідэя выдаць "Энцыклапедыю прыроды Беларусі". Гэта выданне і цяпер застаецца ўнікальным, непаўторным на тэрыторыі былога СССР, невядомы яго аналагі і ў свеце. У 5-томным выданні ў энцыклапедычным парадку, усебакова і грунтоўна дадзены звесткі аб прыродзе нашай краіны — геалагічнай будове і карысных выкапнях, паверхні, гідраграфіі, клімаце, глебах, раслінах і жывёлах, помніках прыроды, ландшафтах і шмат іншага. Рабілі энцыклапедыю дзве рэдакцыі — геаграфіі і біялогіі, але распрацоўка схемы выдання і слоўніка былі зроблены Якубам Адамавічам. Гэта ж адносіцца і да "Блакітнай кнігі", у якой апісаны ўсе водныя аб'екты Беларусі.

Увесь вопыт энцыклапедычнай працы ў канцы жыцця Якуб Адамавіч аддаў рабоце над "Энцыклапедыяй для татар Беларусі", нацыянальна-асветніцкім мэтам служыў і арганізаваны ім часопіс "Байрам". Якуб Адамавіч быў адзін з нямногіх татар, ды і беларусаў, хто так настойліва змагаўся за захаванне культурнай спадчыны беларусаў, хто адчуваў і цаніў прыгажосць беларускай мовы. Можа таму Якуб Адамавіч так актыўна ўдзельнічаў у нацыянальным татарскім і рэлігійным мусульманскім руху на Беларусі, быў ініцыятарам перыядычных выданняў згуртавання татар на беларускай мове.

Нельга не адзначыць яшчэ адну рысу Якуба Адамавіча — ён пастаянна дапамагаў знаёмым і малазнаёмым людзям, асабліва студэнтам і школьнікам — дзецям сваіх супрацоўнікаў і сяброў. Ён цікавіўся іх справамі, "падкідываў" патрэбныя падручнікі ці проста рэдкія кнігі, запрашаў да сябе ў хату карыстацца сваёй багатай бібліятэкай. Наогул, любоў да кнігі, цяга да пастаяннага чытання, набыцця кніг — адна з самых характэрных рыс натуры Якуба Адамавіча. Пасля сябе ён пакінуў у БелСЭ сотні кніг, многія з іх і зараз у карыстанні.

Яго інтараэсы не вычэрпваліся грамадскімі справамі, ён быў выдатны сем'янін, клапатлівы бацька для дачкі і сына, добры дзед для ўнучак. Я бачыў у яго толькі адну адмоўную рысу, не аднойчы беспаспяхова гутарыў з ім аб ёй — ён ні кропелькі не клапаціўся аб сваім здароўі, даваў свайму ўжо не маладому арганізму такія нагрузкі, што іх немагчыма было вытрымаць. А ён мог, як загадчык рэдакцыі і

лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, лячыцца ў лечкамісіі, атрымліваць штогод пуцёўку ў санаторый, але ніколі з гэтага не скарыстаўся. Так жа незразумела ён паводзіў сябе і з кватэрай. У 1970–1980-ых гг. у БелСЭ было лёгка атрымаць дзяржаўную кватэру пры яго пасадзе. Але ён нават не станавіўся на чаргу, жывучы з сям'ёй у аднапакаёўцы і з вялікай цяжкасцю збіраючы грошы на большую, кааператыўную кватэру. Такі ён быў сціплы чалавек.

Я часта ўспамінаю Якуба Адамавіча, нашы размовы, спрэчкі, яго дасціпныя меркаванні па розных тэмах, яго памяркоўны гумар. Ён быў і застаецца самым блізкім мне чалавекам, і я дзякую лёс за тое, што мы шмат гадоў прайшлі разам.

**І.Я. Афнагель,**
вядучы навуковы рэдактар
выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя»



## «... ПРАЦА – ГЭТА І ЁСЦЬ ЗАДАВАЛЬНЕННЕ»

### Да 70-годдзя Якуба (Якава) Адамавіча Якубоўскага

Неяк па тэлебачанню я глядзеў кінафільм, шчыра кажучы, спаў на ім, але ў адзін момант устрапянуўся, бо чалавек сэрцам гаварыў тое, што сядзела ў ім і трывожыла яго душу, розум: *"Спачатку я думаў аб задавальненнях, потым аб працы, а зараз зразумеў, што праца – гэта і ёсць задавальненне".*

Тады адразу ж запісаў гэтыя словы, калі яны паклаліся на паперу, дык чамусьці нібыта побач з сабою адчуў жывы подых дарагога і светлага для мяне Чалавека, вечнага Працалюба, Жыццялюба і самаадданага Творцу!

Ён сам "уварваўся" у маё жыццё, каб мяне яшчэ болей абудзіць, каб я яшчэ больш дбайней працаваў у імя яго маленькага, рупнага народа, які з'яўляецца самай злучнай, самай неад'емнай, самай самабытнай і істотнай часткай нашай "краіны – бранаўкі".

Што й казаць: *"Праца – гэта і ёсць задавальненне"*, *"Памірай, а жыта сей!"*, *"Спяшайся рабіць, бо сёння – гэта можа быць твой апошні дзень!"* – гэтыя яго словы так моцна ўвайшлі ў мяне, што нават кіруюць мною штодзённа.

Якуб *(Якаў)* Адамавіч Якубоўскі – гэта той Чалавек, з якім было наканавана лёсам злучыцца мне. Я да яго "падбіраўся" паціху, але энтузіясты заўсёды апярэджваюць. Якуб Адамавіч праз армію сваіх прыхільнікаў, паслядоўнікаў, сяброў, прыяцеляў, памочнікаў сам знайшоў мяне, напісаў мне і сам прыехаў да мяне. У маёй кватэры назаўсёды засталіся гукі яго Вялікага і Шчырага Сэрца, яго гутаркі, яго падарункі. Засталіся яго ўвага, павага, абаянне, разнабаковыя энцыклапедычныя веды, мудрасць яго, не маючая межаў яго любоў да Беларусі, беларускай мовы, літаратуры, культуры і гісторыі.

Якуб Адамавіч мне неаднаразова гаварыў, нягледзячы на ўсе жахі і зменлівасці жыцця і лёсу, што ён асабіста рады, уганараваны, што нарадзіўся менавіта на Беларусі. І як сапраўдны патрыёт, насельнік гэтай краіны, ён патрабаваў ад усіх годнасці да жывога слова Бацькаўшчыны, дзе ён жыве, працуе, вучыцца, дыхае паветра, п'е яе ваду! Ён так і не прызвычаіўся да шматлікіх перавертняў, калабарантаў, мутантаў, манкуртаў і здраднікаў, якіх занадта багата ёсць сярод беларускага народа.

Памятаю, як у другі прыезд да мяне ў Баранавічы, Якуб Адамавіч пабачыў на маім стале І. Гётэ, тады ён мовіў яго словы: *"Калі чалавек стары, ён павінен больш рабіць, чым калі быў малады"*.

Адразу ж напішу, што ўсе прыезды да мяне Якуюоўскага – гэта былі яго асабістыя гераізм і моц яго неспатольнага духа, бо меў ён цэлую працьму, як ён жартаваў, сімфонію смяротных хвароб, якія ійшлі за ім ад Другой сусветнай вайны. І нават у знясіленым стане ён у першую чаргу думаў аб працы, аб сваіх ідэях, аб тым, каб яны пераўтвараліся ў справы, дбаў аб сябрах і з упэўненасцю глядзеў у будучыню.

І тады ж, калі прыязджаў да яго ў Менск на вуліцу Славінскага, у яго цалкам забітую кватэру кнігамі, часопісамі, газетамі, рукапісамі, дык і там увачавідку бачыў, што Якуб Адамавіч, як і яго жонка Таццяна Васільеўна, ніводнай хвіліны не адпачываюць. Я адыходзіў у сон пры грукаце яго старэнькай пішучай машынкі і прачынаўся пад яе, ад водару страў, прыгатаванымі ім альбо яго вернай і надзейнай суджанай. Што Якуб Адамавіч – дзівосны кухар, адзначаў і вучоны са Швейцарыі Паўль Сутэр, з якім мы адначасова гасцявалі ў Якубоўскіх.

Я вельмі шкадую, што не ўсе лісты Якуба Адамавіча да мяне пабачылі свет у квартальніку "Байрам. Татары на зямлі Беларусі", частка з іх такой была даяральнай, асабістай, што так і назаўсёды засталіся ў маім сэрцы, невялячкая яго карэспандэнцыя згінула ад затаплення маёй кватэры кіпенем па нядбайнасці камунальшчыкаў, калі вада Ніягарай зверху пайшла на мяне. Добра, што тое здарылася, калі быў дома, дык паспеў захаваць кнігі, часопісы і газеты, дасланыя мне з Менска і сагрэтыя яго рукамі і подыхам.

Якуб Адамавіч быў зусім бескарыслівым чалавекам і ў сваім жыцці ніколі не меў яніякай выгады, нават вялікая ўзнагарода – дзяржаўнае лаўрэацтва звалілася на яго, як мне ён сам гаварыў, зусім нечакана. Канешне, гэта клопат аб ім праявіў Пётр Усцінавіч Броўка, які ўмеў падбіраць людзей, цаніць іх, даражыць імі і, канешне, завальваць працай і патрабаваць самаадданасці, вернасці, каб у любую хвіліну палажыцца на гэтага чалавека.

У Якуба Адамавіча было і ёсць шмат сяброў і паплечнікаў, верная і самаадданая жонка Таццяна Васільеўна, добрыя дзеці і ўнукі. Гэта яны ў свой час правялі ўшанаванне яго памяці. Завадатарам гэтага, як і прысвечанага яму квартальніка "Байрам. Татары на зямлі Беларусі" № 3 – 1998 г., быў яго вучань і паплечнік, вучоны, грамадскі і рэлігійны дзеяч Ібрагім Барысавіч Канапацкі. Аддаць даніну светлай памяці Якубу *(Якаву)* Адамавічу Якубоўскаму тады прыйшлі акадэмік Радзім Гарэцкі, народны пісьменнік

Янка Брыль, народны паэт Ніл Гілевіч, паэты Мікола Аўрамчык, Яўген Гучок, галоўны рэдактар часопіса "Роднае слова" Міхась Шавыркін, вучоныя, музейшчыкі, супрацоўнік "БелЭн" імя Пятруся Броўкі, родныя яго і блізкія, сябры, прыяцелі, прыхільнікі, знаёмыя. Справядліва ў тыя дні народны паэт Рыгор Барадулін адзначыў: *"У татарына Якава Якубоўскага бальшыні беларусаў трэба было вучыцца беларушчыне".*

Час ідзе, але вечна і натхняюча будзе зіхацець над Беларуссю высокае і годнае імя Якуба (Якава), сына Адамавага, Якубоўскага!

**Міхась Маліноўскі**



# СЯМ'Я ЯКУБОЎСКІХ НА РАЗДАРОЖЖЫ XX СТАГОДДЗЯ



Брат Якуба - Адам

*Артыкул падрыхтаваны братам Якуба Якубоўскага, Адамам Якубоўскім. У ім апісаны лёс некалькіх пакаленняў з адной сям'і, ад прадзеда да ўнукаў, і паказана, як нялёгкія павароты гісторыі ў XX стагоддзі паўплывалі на вялікую радню. Можна сцвярджаць, што тут адбілася гісторыя многіх сем'яў з Заходняй Беларусі, тэрыторыя якой неаднаразова за стагоддзе пераходзіла пад уладу розных дзяржаў.*

Да канца падыходзіць XX стагоддзе. Ужо можна пачуць па радыё, а то і прачытаць, колькі дзён засталося да канца гэтага века. І больш чым шэсць дзесяткаў гадоў пражыў у гэтым стагоддзі я сам. З'явілася жаданне падзяліцца з людзьмі, як цяг часу ў век даўжыні адбіўся на лёсе адной татарскай сям'і на зямлі колішняга Вялікага княства Літоўскага, або "Северо-Западного края", або "крэсов всходніх", бо мянялася ўлада, прыходзілі розныя гаспадары, а ў татарскіх сем'ях трымаліся свайго парадку жыцця. Гадаваліся працавітыя і сумленныя дзеці, зычлівыя і паважлівыя да тых, хто жыў разам з імі, побач.

Я з'явіўся на свет у сям'і пятым, але гадаваўся толькі трэцім. А ўсяго нас вырасла ў бацькоў чацвёра. Здарылася так, што самы старэйшы брат, Косця, у 17 гадоў у студзені 1945 г. быў узяты ў войска і доўгія шэсць гадоў заставаўся там. Старэйшы брат, Якуб, абставінамі жыцця вымушаны быў рана пайсці з роднае хаты на свой хлеб, а меншы, Браніслаў, і я заставаліся ў хаце. Маці часта хадзіла на мізар, бо там былі пахаваны мая сястра і два браты, мае дзве бабулі і дзядуля. Мне не давялося пабачыць іх жывымі, бо на

